E-mail: nchas@promedia.by

# Новы Час

№ 14 (19) БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА КАСТРЫЧНІК 2003 ГОДА *ПАДПІСНЫ ІНДЭКС 63773* http://nchas.iatp.by

## Навіны

### «Анастасія Слуцкая» па-беларуску

Як вядома, шырока рэкламаваная ў Беларусі гістарычная меладрама «Анастасія Слуцкая» была знятая па-руску. І вось нарэшце мы дачакалі, што гэты фільм дублявалі на родную мову княгіні Анастасіі – беларускую, для тутэйшых.

Прэм'ера беларускамоўнага варыянту кінастужкі адбудзецца на IV Нацыянальным фестывалі беларускіх фільмаў у Брэсце, які пройдзе з 11 па 16 кастрычніка. Дарэчы, паводле словаў рэжысёра фільма Юрыя Елхава, на многіх фестывалях, дзе ўжо паказвалася «Анастасія Слуцкая», яе стваральнікам часта задавалі пытанне, маўляў, «чаму нацыянальны праект створаны на рускай мове». Якое было тлумачэнне – невядома.

Што тычыцца іншых моваў, то гэты фільм, які ў Беларусі паглядзелі ўжо 300 тысяч чалавек, неўзабаве будзе дубляваны і англамоўнымі субтытрамі, каб патрапіць на кінафестывалі ў далёкім замежжы. У прыватнасці, на кінарынак у Каны ў наступным годзе. Але дагэтуль «Анастасія Слуцкая» возьме ўдзел у фестывалі «Лістапад» у беларускай сталіцы, які пройдзе сёлета пры канцы аднайменнага месяца.

І яшчэ адна навіна для тых, каму даспадобы гэты касцюміраваны фільм на кранальны гістарычны сюжэт. «Анастасія Слуцкая» ўжо ёсць на відэакасетах. Праўда. Пакуль рускамоўны варыянт. Але будзе і беларускамоўны. Апрача таго, з'явіцца фільм і на DVD. Можна будзе мець у хатняй відэатэцы.

**Ільля КАТАВЕЦ**





Так выглядала ў даўнейшыя часы, да зруйнаванняў пачатку 19-га стагоддзя, Навагрудская ратуша. Яе выгляд аднавіў па архіўных крыніцах старэйшы мастак Наваградчыны Пятро Пракопавіч Каўцэвіч. З нагоды 80-годдзя творцы ў выставачнай залі дома-музея Адама Міцкевіча наладжана выстава яго твораў, выкананых у розных жанрах – жывапіс, графіка, малюнак. За паўстагоддзя натхнёнай працы мастак стварыў уражальную галерэю партрэтаў, краявідаў, памятных мясцін роднай Наваградчыны, якія засведчылі ў мастацкім асвятленні цэлую гістарычную эпоху.

# Дасягнеш – калі жадаеш

Інтэрв`ю Пятра Садоўскага



Відавочна, што беларуская мова актыўна выціскаецца з публічнага ўжытку. Нейкім факультатывам яна прысутнічае ў навучальных установах, амаль знікла з радыёэфіра, яе ігнаруе дзяржаўнае чынавенства ўсіх рангаў, цалкам русіфікаванае цяпер і «беларускае тэлебачанне». Што стаіць за гэтымі працэсамі, чаго намагаюцца дасягнуць улады, пагадзіўшыся на маргінальны стан мовы тытульнай нацыі? Што рабіць у такой сітуацыі людзям, для якіх мова – неад'емная частка жыцця?

Сваімі меркаваннямі «Новы Час» папрасіў падзяліцца знанага грамадскага дзеяча, былога пасла Беларусі ў ФРГ, спецыяліста ў праблемах мовазнаўства **Пятра Садоўскага**.

**– Ці не нагадвае Вам сённяшняя моўная сітуацыя тую, што была за савецкім часам?**

- Нагадвае. Толькі зараз гэта робіцца больш нахабна і агрэсіўна, нават без спробаў гэта неяк прыхаваць. Падобна, што гэта робіцца спланавана. Прыклад з беларускай чыгункай, дзе беларуская мова раней сяк-так прымалася. Зараз, напрыклад, на вельмі «беларускім» накірунку, дзе едзе шмат вяскоўцаў і гарадскога «пенсійнага» электарату (Мінск–Маладэчна), гучнамоўная сувязь у электрычцы русіфікавана татальна ў робатападобным выкананні жаночым галасам з гіпертрафіраванай арфаэпіяй («Масюкофшышына»). Гэты голас уключаецца праз кожныя дзве хвіліны. Папярэджанні рознага кшталту, расповяд пра спецыфіку чыгункі, небяспеку пажару і г.д. Трашчыць галава ад агрэсіўнай акустыкі.

Але ж гэты накірунак так знітаваны з беларускай гісторыяй: Заслаўе (Рагнеда, Ізяслаў), Вязынка (Янка Купала), Ласі (паўстанцы Каліноўскага), Краснае (побач Рацэўшчына, звязаная з Багдановічам, Уласам Луцкевічам) і г.д. І вось коціцца жалезная русіфікацыя ў вушы нашых дзетак, кабетаў, маладзёнаў, дзядзькаў: Масюкофшышына, Крулефшызна... Акупацыя ... Акупацыя эфіру.

**– Чаму гэта адбываецца зараз, бо працэс пакідае ўражанне няспыннага?**

– Прычыны гэтага працэсу – вядомыя. Пра гэта шмат пісалі (гісторыя 18-19 стст., ды савецкая эпоха). Зараз дадаліся два моманты. Суб'ектыўны фактар – феномен беларускага «прэзідэнства» (праект небеларускага паходжання). Аб'ектыўны фактар – перыяд дзікага капіталу (прыклад з тэлебачаннем, дзе новая «каманда» мэнэджараў за кошт падаткаплацельшчыкаў, выконваючы дзяржзаказ, не забывае пра ўласную кішэню за кошт «нацыянальных» праектаў).

**– Чаму інтэлігенцыя і настаўнікі маўкліва пагаджаюцца з гэтым?**

– Не ўсе маўкліва пагаджаюцца. Вазьміце хаця б прыклад з ліцэем імя Якуба Коласа. А хто маўчыць, той баіцца страціць працу і г.д.

**– Як Вы думаеце, што павінны прадпрыняць сумленныя і свядомыя людзі ў такім становішчы? Магчыма неяк публічна выказаць сваю пазіцыю...**

– Змагацца рознымі спосабамі. Яны – вядомыя: лісты, пратэсты, дамашняе выхаванне, беларускае сяброўства, падтрымка свайго кніжнага рынку, падпіска добрых беларускіх выданняў, рух «Слухай сваё», элементы нацыянальных сімвалаў у адзенні, значкі, беларуская гутарка ў публічных месцах (на пачатку для куражу па 2–3 чалавекі), патрабаванне і падтрымка беларускага навучання (я ведаю нацыянальна свядомых, хто на пўлітра грошы знаходзіць, а даць адну тысячу на беларушчыну – не мае), настойлівае патрабаванне забеспячэння сваіх канстытуцыйных праваў перад уладай і г.д.

Дарэчы, рэсурс беларушчыны падчас выбараў ды іншых грамадскіх імпрэзаў не выкарыстаны. Хтосьці падлічыў, што толькі ў Мінску ад беларушчыны афіцыйна «кормяцца» каля 300.000 чалавек! Трэба правесці ў жыццё праект тыпу «Беларусы хутка і разам», нешта накшталт філіпінскага «smart mob» («хуткі разумны збор людзей, якія адчуваюць сацыяльны боль»), які за адну ноч у 2000 годзе зрынуў карумпаваны рэжым Эстрады, сабраўшы праз Internet і SMS (short message service – тэлефоны, пэйджэры і г.д.) сотні тысячаў грамадзянаў на дэманстрацыю.

**– Як можа выглядаць «алгарытм» гэтага праекту?**

– Можна назваць восем пунктаў:

1) Інвентарызацыя асобаў, што занятыя ў адпаведнай сферы (настаўнікі, журналісты, артысты, бібліятэкары, студэнты, проста добразычлівыя людзі і г.д.).

2) Вызначэнне спосабу першага кантакту з асобай з улікам магчымасцяў «мультыплікатараў» (тых, хто згодны будаваць кантакты праз асабісты зварот, лісты, званкі і г.д.).

3) Складанне рэальнага спісу «smart мов'аўцаў», якія будуць удзельнічаць у акцыях.

4) Класіфікацыя па групах (прафесійныя, рэгіянальныя, тэрытарыяльныя і г.д.).

5) Вызначэнне лідэраў і тэхнічных арганізатараў.

6) Вызначэнне «кропкавых» праектаў (маніторынг TV, газетаў, дзяржінструкцый, пастановаў, выказванняў афіцыйных асобаў, стан навучальных установаў, канкрэтных станоўчых і адмоўных падзеяў і г.д.).

7) Выпрацоўка спосабаў «хутка масавай рэакцыі» на адпаведную падзею (тысячы лістоў, дзесяткі «лятучых» пікетаў, дзесяціхвілінныя страйкі, тэрміновая дапамога «беларусу ў бядзе» і г.д.).

8) Афармленне стыхійна-арганізаванага руху (у межах заканадаўства) у арганізаваны рух, што можа перарасці ў сур'ёзную грамадскую сілу. Зачаткі гэтага ёсць: ТБМ, Сход інтэлігенцыі, нацыянальны NGO, партыйныя плыні. Але трэба паказаць, што нас – шмат. Таму – «інвентарызацыя». Першы крок да «Беларусы хутка і разам».

Галоўная сіла – за маладымі. Гуляюць жа яны ў «flash mob» – «хуткі натоўп», які ладзіць свае смяшлівыя бессэнсоўныя перформансы.

# «Стары Ольса» працуе над кліпам

**Гурт сярэднявечнай беларускай музыкі «Стары Ольса» пачаў здымкі кліпа на сярэднявечную музыку. Кліп здымаецца ў лясах Магілёўшчыны. Для сюжэту абрана адна з самых папулярных песняў сярэднявечча – «У карчме». Аўтары і выканаўцы роляў імкнуцца абсалютна рэканструяваць беларускую рэчаіснасць XVI стагоддзя. Здымае кліп новая беларуская відэастудыя «Дуэт». У здымках удзельнічаюць буйныя рыцарскія клубы Мінска: «Княжы гуф», «Ордэн Паўночнага храма», «Унія меч і воран», «Рыцары Вялікага Княства», а таксама асобныя артысты і каскадзёры. Кіраўнік гурта «Стары Ольса» Зміцер Сасноўскі плануе скончыць працу над кліпам у лістападзе. Тады ж кліп з'явіцца на айчынных і замежных тэлеканалах.**



## Парк Чалюскінцаў рэканструююць

Паралельна з рэканструкцыяй Батанічнага сада ў Мінску будзе асучаснены і прылеглы да яго парк Чалюскінцаў. Кошт праекту рэканструкцыі - 30 мільёнаў долараў. Яна будзе распачатая ў наступным годзе, а мусіць быць завершаная да восені 2005 года.

Карацей, як заўсёды апошнім часам у нас усё хочуць зрабіць аўральнымі тэмпамі ў рэкордныя тэрміны. Але, бывае, што не атрымліваецца, як гэта з аднаўленнем мінскай ратушы. Яе павінны былі ўрачыста адкрыць сёлета на Дзень Мінска 13 верасня, але цяпер ейнае адкрыццё пераносіцца на 3 ліпеня.

У часе рэканструкцыі ў парку Чалюскінцаў будуць пабудаваныя маладзёжны культурніцка-забаўляльны цэнтр, фантан, каток, а таксама ўстаноўленыя новыя атракцыёны. Гэта сапраўды праблема: большасць атракцыёнаў у сталічных парках ужо састарэла і маральна, і фізічна. Але пацеху яны замяняюцца на новыя. Гэтак падчас рэканструкцыі парку імя Горкага тут з'явіліся адразу некалькі новых забавак. Прыкладам, кола агляду дыяметрам на 54 метры супраць 24 метраў старога. Дарэчы, гэта самае вялікае кола агляду ў нашай краіне.

Абнаўленне гэтых паркаў падштурхоўвае не толькі стан тутэйшых атракцыёнаў, але і канкурэнцыя. Нагадаем, што сёлета ў сталіцы адкрыўся адмысловы мадэрновы парк адпачынку «Dreamland».

## Опера пераедзе

Да сезона 2005 года Нацыянальны тэатр оперы і балета мусіць падшукаць новыя сцэны для спектакляў. Рэч у тым, што тады ва ўласным будынку тэатра на плошчы Парыжскай камуны распачнецца рэканструкцыя, бо ён знаходзіцца ў небяспечным стане. Супрацоўнікі Міністэрства надзвычайных сітуацый даўно настойваюць на правядзенні рамонту.

Хаця, натуральна, аматары оперы і балета ад пераезду гэтага тэатру на іншыя сцэнічныя пляцоўкі багата што згубяць. Бо іншыя залы адмыслова не абсталяваныя акустычна. Карацей, будзе не тое гучанне. Але варта патрываць, бо грунтоўны рамонт мусіў тут прайсці ўжо даўно. Тэатр оперы і балета быў пабудаваны на колішняй Траецкай гары яшчэ ў 1935-1939 гадах па праекце архітэктара Іосіфа Лангбарда. Дарэчы, па яговых жа праектах у Мінску паўсталі Дом ураду, Дом афіцэраў і галоўны корпус Акадэміі навук.

## Выканаюць хіт Belle

У нядзелю, 12 кастрычніка, адбудзецца сольны канцэрт «Крамбамбулі» з праграмай «Каралі раёну». На сцэне ўпершыню можна будзе ўбачыць разам усіх стваральнікаў альбома. У Лявона Вольскага, Сяргея Міхалка і Аляксандра Кулінковіча абсалютна розныя музычныя захапленні, аднак лідэры гуртоў N.R.M., «Ляпис Трубецкой» и «НейраДзюбель» знайшлі падставу сысціся, каб спець разам.

Для «Крамбамбулі 1,5» яны стварылі песні на беларускай мове, набліжаныя да дваровай стылістыкі. Па словах Вольскага, гэта вясёлыя сіроцкія песні, якія можна лічыць застольнымі. Рызыкай канцэрта стане выкананне незвычайным калектывам хіта Belle з мюзікла «Нотр Дам дэ Пары» на беларускай мове.

## Новыя карткі

У кастрычніку «Белтэлекам» выпусціць у абарачэнне новыя універсальныя тэлефонныя карткі на 30 тарыфных адзінак коштам 1.390 рублёў, 90 (2.660 руб.), 180 (4.560 руб.), 240 (5.820 руб.), 480 (10.880 руб.). У продажу яны з'явяцца пры канцы месяца.

Старыя карткі наміналамі на 20, 100, 500 і 750 тарыфных адзінак больш вырабляцца і прадавацца не будуць, але тыя, што яшчэ знаходзяцца на руках у насельніцтва, чынныя да сканчэння тэрміну, пазначанага на іхнім адваротным баку.

Па горадзе з дапамогай гэтых картак можна тэлефанаваць са звычайных таксафонаў, міжгароднія, міжнародныя званкі і званкі на мабільнікі можна рабіць з універсальных тэлефонаў «Агат». Хвіліна размовы па горадзе адпаведная 1 тарыфнай адзінцы, унутры краіны – 2,3, з абанентам «БелСел» – 10,8, Velcom и MTC – 19 тарыфных адзінак.

## Фінскі вопыт

Фінскія працадаўцы ў апошні час усё часцей аплочваюць сваім супрацоўнікам паслугі нянькі па даглядзе за хворым дзіцем, каб бацькі маглі нармальна працаваць. Згодна з паведамленнем фінскай тэлекампаніі MTV3, Саюз аховы дзяцей імя Манергейма заключыў з 15 буйнымі кампаніямі Фінляндыі пагадненне аб прадастаўленні працуючым бацькам гэтай паслугі.

Пакуль што пагадненне заключылі на 3 гады, але гэтая практыка будзе працягвацца. Усе тры бакі (працадаўцы, наёмныя працаўнікі і Саюз) задаволены новаўвядзеннем. Працадаўцы толькі выйграюць, што іх супрацоўнікі не будуць хвалявацца, бо хворае дзіця будзе мець дома нагляд. Кіраўнік лесапрамысловага канцэрна Metso Paper, якое далучылася да пагаднення, перакананыя, што кампаніі больш выгадна аплаціць паслугі нянькі, чым несці страты ад адсутнасці супрацоўніка ў рабочыя дні. Асабліва задаволены пагадненнем бацькі, якія працуюць па найме.

# Восеньскія прэм'еры

**Пра праект «Адраджэнне беларускай музычнай капэлы» апавядае Віктар Скарабагатаў**

У рамках праекта «Адраджэнне беларускай музычнай капэлы» перад музыкантамі стаіць задача не толькі выканаць твор, але і аднавіць старажытную партытуру. Сумесна з ансамблем «Класік-Авангард» зараз рыхтуецца прэм'ера беларускай музыкі 16-га стагоддзя. Першы фестываль у рамках гэтага праекта прайшоў у 1991 годзе. Ад гэтага часу творчы калектыў на чале з вядомым оперным спеваком Віктарам Скарабагатавым займаецца рэстаўрацыяй і выкананнем твораў з нашай музычнай мінуўшчыны. Ідэя фестывалю палягае ў тым, каб сучасны слухач пачуў музыку з глыбіні вякоў. Такую унікальную магчымасць мы будзем мець гэтай восенню. З гэтай нагоды карэспандэнт «Новага Часу» ўзяла інтэрв`ю ў ініцыятара і стваральніка праекта спявака **Віктара Скарабагатава.**

**– Лічыцца, што ў XVI стагоддзі быў Залаты век беларускага мастацтва і музыкі. Спадар Віктар, якія прычыны, на вашую думку, абумовілі і паспрыялі гэтай з'яве?**

– У 16 стагоддзі адбыліся дзве значныя падзеі – Рэфармацыя і Рэнесанс. Яны як бы накладыліся адна на другую, і атрымаўся магутны культурніцкі выбух. Менавіта на той час прыйшлася эпоха кнігадрукавання, але друкавалі не толькі кнігі, але і ноты. Менавіта тады з'явіліся і ў Нясвіжы, і ў Берасці друкарні, якія пачалі выдаваць спеўнікі, і пабачылі свет Нясвіжскі і Брэсцкі канцыяналы. Гэта першыя беларускія нотадрукі. Абедзве друкарні былі заснаваныя Мікалаем Радзівілам Чорным. Гэты магнацкі род у той час паўплываў на жыццё краіны ўва ўсіх сферах. Сапраўды, куды не кінеце позірк - паўсюль убачым Радзівілаў.

Той росквіт быў настолькі магутны, выбуховы, што Беларусь адразу заняла сваё годнае месца ў еўрапейскай культурнай прасторы. Калі пагля дзець на адпаведныя культурныя з'явы ў другіх краінах, то мы ўбычым, што Беларусь знаходзілася на піку культурных падзей.

Лідэрам музычнай культуры тады лічылася Галандыя – краіна, якая ўплывала нават на развіццё італьянскай музычнай культуры. Італія, таксама як і Беларусь, знаходзілася пад уплывам нідэрландскай музычнай школы. Нідэрландская харавая культура вылілася ў так званы «нідэрландскі музычны стыль».

Прадстаўніком гэтага стылю з'яўляецца вядомы галандскі кампазітар Арланда Ласа, які напісаў столькі твораў і такой якасці, што, напэўна, патрэбна два жыцці, каб проста запісаць яго музыку. Ён быў надзвычай працаздольны чалавек. І вось у тым самым стылі, у якім ён працаваў, стылі «строгага харавога пісьма», пісалі і нашы кампазітары, напрыклад, Вацлаў Шамотаў і Дыямен Като.

**– Ці ёсць у беларускіх музычных творах таго часу мясцовы каларыт, беларуская адметнасць?**

– Мясцовы адбітак у гэтых творах бясспрэчна адчуваецца. Напрыклад, часта сустракаецца музычная інтанацыя, якой заканчваецца напэўна кожная трэцяя народная песня. У строгім поліфанічным стылі – і раптам народныя матывы! Ну, абсалютна зразумела, што гэта і ёсць той самы «мясцовы каларыт».

Безумоўна, што і ў розных рэлігійных канфесіях існуюць пэўныя музычныя традыцыі. Напрыклад, у праваслаўнай царкве мы ніколі не пачуем арган. А вось адбітак праваслаўных традыцый у беларускай каталіцкай службы прысутнічае. Напрыклад, калі на фоне каталіцкага «Рэквіема» Антонія Радзівіла раптам у партыі злога духа мы чуем тэму з праваслаўнай службы. Гэтыя музычныя традыцыі спалучаюцца вельмі цікава.



Ці ўзяць беларускія «жальбы». Па ўсіх фармальных прыкметах гэтыя творы уяўляюць сабой тое ж самае, што ў нямецкай лютэранскай традыцыі называецца «passion». Напрыклад творы І.-С. Баха і нашы жальбы – гэта, па сутнасці, адзін і той жа жанр. Хоць у нас яны традыцыйна выконваліся, і па сённяшні дзень выконваюцца ў каталіцкай царкве, хоць па сутнасці з'яўляюцца пратэстанцкімі.

**– Хто ў тыя часы выконваў гэтую музыку? Якія інструменты і адукацыя былі для гэтага неабходны?**

– У свой час я з вялікім узрушэннем прачытаў адну інфармацыю пра тое, колькі год самай першай музычнай школе Мінска. Аказваецца, што прыкладана 400 гадоў. І што самае цікавае, яна знаходзілася на тым жа самым месцы, дзе зараз знаходзіцца ліцэй пры Беларускай Акадэміі музыкі, – на плошчы Свабоды. Дык вось, калі мы звернем увагу на той час, то ўбачым, што ў Беларусі было проста безліч навучальных устаноў, вялікая колькасць калегіумаў і школ пры любым больш-менш значным рэлігійным асяродку. Усе гэтыя школы вучылі, як вядома, сямі вольным навукам, сярод якіх музыка займала адно з галоўных месцаў, побач з матэматыкай. Так што ўсе вучыліся музыцы, усіх выхаванцаў абавязкова вылучалі ў хоры — царкоўныя, касцельныя, пры кальвінскіх зборах. Усе яны мелі музычную адукацыю, і некаторыя былі музыкантамі паводле адукацыі.

**– Ці ёсць у тых старых партытурах, з якімі вы працуеце, нейкія адмысловыя партыі для беларускіх традыцыйных інструментаў?**

– Канешне, хоць на той час такога інструментальнага класічнага складу, які мы ведаем сёння, яшчэ не існавала. Па сутнасці, той сімфанічны аркестр, які зараз існуе, – гэта спадарожжа XIX стагоддзя. Раней карысталіся мясцовымі. Так што не дзіва, калі нават у беларускіх сінагогах можна ўбачыць выявы цымбалаў на сценах.

Канешне, карысталіся і валынкамі, і цымбаламі, скрыпкамі. Дарэчы, скрыпка амаль ва ўсіх еўрапейскіх народаў і ў беларускім таксама з'яўляецца нацыянальным інструментам. Таму тое, што зараз у нашым аркестры народных інструментаў няма скрыпак – гэта загана. Гэта гістарычна недакладна.

**– Спадар Віктар, а чаму большасць твораў таго часу ананімныя? Ці не было такой традыцыі падпісвацца?**

– Прычына ў тым, што да Рэнесансу гэта ўвогуле не віталася. Бо ёсць толькі адна асоба, да якой павінна быць звернута ўвага ўсіх людзей – гэта Ісус Хрыстос. Таму амаль усе творы былі ананімныя. Любое дзеянне чалавека было падначалена ідэі ўслаўлення Хрыста, а сама асоба дзеяча нікога не цікавіла. Толькі пасля асоба майстра, кампазітара набыла важнасць. Тое ж самае адбывалася і ў выяўленчым мастацтве, і ў літаратуры, і ў музыцы – калі з'явілася традыцыя падпісваць творы ўласным імем. Хоць і ў XVIII стагоддзі можна сустрэць не падпісаныя творы.

Што да той музыкі, з якой мы зараз працуем, захаваліся толькі два прозвішчы твораў – Катовіч і Германоўскі, гэта аўтары «планктаў», ад лацінскага planktus – плач. Калі мы іх склалі ў цыкл, атрымалася араторыя. Пераважна там ананімныя аўтары, і толькі два чалавекі паставілі сваё імя.

**– Віктар Іванавіч, распавядзіце калі ласка падрабязней пра прэм'еры, якія чакаюць аматараў музыкі.**

– Наша задача – паказаць тагачасную культуру і перш за ўсё лепшых беларускіх кампазітараў. Гэта ўсё кампазітары, якія працавалі альбо пры двары Радзівіла Чорнага – гэта значыць у Вільні, альбо пры двары Стэфана Баторыя ў Гродні. Мы хочам, каб беларуская музыка прагучала ў еўрапейскім кантэксце, таму будзем абавязкова паказваць гэтыя творы побач з нідэрландскай школай, з музыкай Францыі, Англіі і Італіі.

У гэтым годзе нашая ўвага аддадзена Рэфармацыі і Рэнесансу. Мы хочам паказаць таксама ўплыў і развіццё ідэй у музычнай культуры, народжанай эпохай Рэнесансу, у пазнейшы час. Таму мы рэтраспектыўна ахопім увагай чатыры стагоддзі – ад XVII да XX.

Скажам, Марцін Лютар быў не толькі рэлігійны дзеяч, але таксама і выдатны паэт, пісаў прыгожыя вершы. І вось адзін з яго вершаваных цыклаў пад назвай «Пані Музыка» паклаў на музыку Паўэль Хендымід (XX ст.). Гэта вельмі прыгожы і ўзнёслы твор. Мы пакажам яго на фестывалі. Абавязкова, прынамсі часткова, прагучыць музыка Антонія Радзівіла. Там ёсць вельмі цікавыя рэмінісцэнцыі, звязаныя з вялікоднымі святамі.

**– Як нарадзіўся праект «Адраджэнне беларускай капэлы», кіраўніком якога вы з'яўляецеся ўжо больш за 10 гадоў?**

– Не ўсе ведаюць, што беларускае музычнае мінулае зафіксаванае, пісьменнае, вядзе сваю гісторыю ад XII стагоддзя, калі былі напісаны хваласпевы ў гонар Ефрасінні Полацкай. Самае істотнае, што яны захаваліся, і сёння мы маем магчымасць іх паслухаць, праспяваць.

Тады, калі гэтая ідэя толькі-толькі з'явілася, усё для нас было terra inkognita, невядомай зямлёй. Нашае мінулае было тады проста мінулым, яно не было гістарычным. Бо гісторыя – гэта асобы, постаці. Гісторыя насычана падзеямі. Менавіта гэтага мы былі пазбаўленыя. І перад намі стаяла задача ўзнаўлення нашага мінулага на ўзроўні гісторыі. Вось гэтым мы і займаемся.

Кожны фестываль у нас меў розны гістарычны накірунак. Мы паказвалі эпоху барока, эпоху класіцызму, рамантызм, сучасную музыку, у якой нас асабліва цікавяць творы, пабудаваныя на гістарычным матэрыяле. Напрыклад, была паказана кантата Віктара Капыцько «Куранты», другім разам кантата Вячаслава Кузняцова пад назвай «Песні даўнейшых ліцьвінаў». Такія творы мы абавязкова вылучаем у нашыя канцэртныя фестывальныя праграмы.

**– Спадар Віктар, вы можаце распавесці пра супрацоўніцтва з ансамблем «Класік-Авангард», які прыме ўдзел таксама і ў восеньскіх прэм'ерах «Беларускай музычнай капэлы».**

– Мы плённа супрацоўнічаем усе гэтыя гады, пачынаючы ад першага дня. Большасць нашых праектаў абапіраецца на іх творчасць. Бывае, канешне, што мы звяртаемся да сімфанічнага аркестра ці капэлы імя Рыгора Шырмы. Але калі гэта тычыцца эпохі XVI стагоддзя, то зразумела, што ў той час не існавала такіх буйных сімфанічных аркестраў, і пры дварах магнатаў, князёў, і таксама пры цэрквах і касцёлах існавалі капэлы, для якіх і пісалася музыка.

Музычнае асяроддзе таго часу было досыць разнастайным. Нам яшчэ прыйдзецца прыкласці шмат высілкаў, каб аднавіць наша музычнае мінулае. Мы толькі на пачатку гэтага шляху. За гэтыя гады нам удалося адрадзіць у невялікай колькасці творы пэўных аўтараў, але гэтых аўтараў ужо больш за 150.

У цяперашні час пераважна ўся выкананая намі музыка гучала ўпершыню. Бывала, што па 100, па 200, па 300 год ніхто ня чуў гэтых твораў. Узнаўленне – гэта дастаткова цяжкая праца, бо творы напісаныя нотазапісам таго часу. Напрыклад, на 6, а не на 5, як зараз прынята, лінейках на музычным стане. Даволі цяжка вызначыць галоўны голас. Гэта зараз ён запісваецца як самы верхні, а тады ён мог быць і альтавы, і басовы. Карацей, трэба быць навукоўцам, каб вызначыць, што тут правільна, ці няма памылак, і калі яны ёсць, іх трэба выправіць.

Вось такой працай займаюцца нашыя калегі-рэдактары. Пераважна яны з ліку выканаўцаў. Спадар Байдаў, кіраўнік «Класік-Авангард», – выдатны рэдактар і музычны рэстаўратар. Ён настолькі добра гэта робіць, што кожная яго прэм'ера, ператвараецца ў культурніцкую падзею. Я б сказаў, што ён як рэстаўратар вычышчае фрэску, і нарэшце мы бачым прыгожыя вобразы з карціны нашага мінулага.

**– Колькі канцэртаў плануецца і дзе яны пройдуць?**

– Плануецца чатыры канцэрты – 4, 6, 9 і 11 снежня. Першым будзе канцэрт арганнай музыкі, які рыхтуе Уладзімір Неўдах і яго студэнтка. Яны, між іншым, упершыню ў Мінску выканаюць творы з «Беларускай арганнай кніжачкі» (XVI ст.), раней гэтыя творы гучалі толькі ў Полацку. Пачынаючы з другога канцэрта фестывалю будзе выступаць «Класік-Авангард», і ў залежнасці ад рэпертуару да яго будзе далучацца Мінскі камерны хор. Прагучаць беларускія творы з Нясвіжскага і Брэсцкага канцыяналу; а таксама харалы І.-С. Баха, фрагменты з жальбаў (XVII–XVIII стст.), творы Антонія Радзівіла. Плануецца ўдзел салістаў – Раіса Шыгава, Алена Сало, Андрэй Кавалеўскі, я праспяваю некаторыя творы з Полацкага сшытка. Амаль тры чвэрці музыкі будзе гучаць упершыню. Мы паказваем гэтыя шэдэўры мінулага, каб людзі бачылі, што нам ёсць чым ганарыцца, што мы нашчадкі вялікай культуры.

**– Якую ролю можа адыграць сёння адраджэнне музычнай культуры, старых твораў і спеваў?**

– Нічога новага я сказаць не магу аб ролі музыкі ў жыцці чалавека. Столькі ўжо напісана... Толькі прывяду адзін факт. Калі ў сярэдзіне XIX стагоддзя адбылася рымская прэм'ера оперы Дж. Вердзі «Трубадур», спектакль так моцна паўздзейнічаў на слухачоў, што Вэрдзі ўзялі на рукі і на руках данеслі да дому. На вуліцах тых, хто бачыў, што ідзе нейкая маніфестацыя і далучаліся да яе. І ў рэшце рэшт, гэты дзень стаў пачаткам пераможнага паходу Дж. Гарыбальдзі і аб'яднання італьянскіх земляў у адну краіну. Так што музыка, як бачым, можа стаць дэтанатарам нават такіх глабальных для жыцця людзей і краіны падзеяў.

Беларусь заўжды была еўрапейскай краінай, яна так утварылася. У нас выдатнае мастацтва, пачуццё густу. Каб гэта ўсвядоміць, трэба недзе пабываць, паехаць пагля дзець на стан музычнай культуры Германіі, Брытаніі, Францыі, і калі вы прыедзеце і пабачыце нашу рэчаіснасць, то становіцца абсалютна зразумела, што Беларусь не тулішча на задворках, яна амаль што ў першых шэрагах.

**Ядвіга МАЦКЕВІЧ**

# Высакародная мэта – палова поспеху

***12 кастрычнікаадбудзецца чарговы з'езд Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны***

Зараз перад кіраўніцтвам Грамадскага аб'яднання востра стаіць праблема, дзе з'езд правесці. На зварот арганізацыі да Упраўлення справаў прэзідэнта прадаставіць «залу ў Доме літаратара» ТБМ атрымала адказ, што каштаваць арэнда будзе 2 тысячы еўра. «Нават калі б мы і мелі столькі грошаў, то зрабілі б на іх што болей карыснае, а не выкінулі б на вецер», – кажа старшыня ТБМ Алег Трусаў.

З нагоды з'езда «Новы Час» папрасіў спадара Трусава адказаць на пытанні аб праблемах арганізацыі.

**– Якія надзённыя праблемы ў дзейнасці ТБМ плануецца абмеркаваць на з'ездзе?**

– Зараз мы шукаем варыянты, дзе можна было б правесці з'езд, іх ужо даволі шмат, і таму я спадзяюся, што мы не будзем збірацца на вуліцы. Павінны быць вылучаны 204 дэлегаты, якія будуць прадстаўляць 62 зарэгістраваныя арганізацыі ТБМ. Ад незарэгістраваных прыедуць паўнамоцныя прадстаўнікі. Таксама плануецца невялікая колькасць гасцей і журналістаў.

Акрамя статутных – справаздача, абранне кіраўніцтва, новага рэдактара ў газеце «Наша слова», самае галоўнае – гэта планы на наступныя два гады. Будзе абмяркоўвацца пытанне захавання Нацыянальнага ліцэя, які ў свой час быў створаны пры актыўнай падтрымцы ТБМ, і таксама арганізацыя працы Беларускага Нацыянальнага універсітэту на грамадскіх пачатках. Я думаю, што калі з'езд гэтую прапанову падтрымае, то мы зможам стварыць структуру, абраць рэктара, дэканаў, стварыць кафедры, і на кожную кафедру ўзяць прыкладна пяць студэнтаў. Хай у гэтым універсітэце будзе вучыцца 50–60 студэнтаў. Гэта будуць і выпускнікі ліцэя, і найбольш свядомая частка моладзі, якія хочуць атрымаць сапраўдную беларускую адукацыю, якую не можа даць ім дзяржава. Я думаю, што гэта задача адна з самых галоўных.



**– А наколькі яна, на вашу думку, выканальная?**

– Выканальна ўсё, калі з розумам узяцца. У нас ёсць канцэпцыя, ёсць выкладчыкі, ёсць пералік факультэтаў і пералік кафедраў. Раней мы хацелі, каб такі універсітэт стварыла дзяржава. Мы сабралі 55 тысяч подпісаў грамадзян, сустракаліся з кіраўніцтвам, з былым міністрам адукацыі. Я сам хадзіў у Адміністрацыю прэзідэнта. Там прапрацавалі гэта пытанне і сказалі, што ўсё гэта можна зрабіць, але трэба палітычнае рашэнне, якога не паследавала. Гэта значыць, што ўлады вызначыліся. Але паколькі ўлады сёння адны, а заўтра – іншыя, нам трэба зрабіць, як зрабілі палякі падчас нямецкай акупацыі. Яны стварылі хатнія універсітэты, і так польскія універсітэты пачалі працаваць. Зараз важна, на мой погляд, зрабіць такую інвестыцыю ў будучыню.

Яшчэ адна наша спроба – дамагчыся ад Еўрасаюза інвестыцый у адкрыццё беларускамоўнага спадарожнікавага канала. Адпаведную прапанову мы распрацавалі, палічылі, што на яго адкрыццё трэба мільён даляраў. Гэта адносна невялікія грошы. І тады кожны, хто мае «талерку», мог бы глядзець нармальнае, незаангажаванае грамадскае беларускамоўнае тэлебачанне.

**– Ці справядліва было б сцвярджаць, што за апошнія два гады ТБМ з культурна- асветніцкай ператварылася і ў праваабарончую арганізацыю?**

–Мы не пакідаем культурна-асветніцкую працу. Самы лепшы прыклад гэтаму – гістарычныя семінары, што ладзяцца ў нас, і на якія прыходзіць столькі людзей, што памяшканне не можа ўмясціць усіх. Гэтыя семінары праходзяць з вялікім поспехам, і пасля з'езда мы іх працягнем. Мы па-ранейшаму праводзім імпрэзы, сустрэчы з пісьменнікамі – робім тое, чым займалася арганізацыя ў свае лепшыя часы.

Але зараз сапраўды на першае месца выйшла праваабарончая функцыя. Мы баронім лінгвістычныя правы грамадзян Беларусі. І даволі паспяхова. Мы атрымалі статус і прызнаныя ва ўсім свеце адной з мацнейшых праваабарончых арганізацый краіны. Мы і не чакалі, але так склалася. Я думаю, што пакуль будзе гэтая ўлада, праваабарончы аспект нашай дзейнасці будзе заставацца асноўным.

**– Апошні з'езд быў два гады таму, што змянілася за гэты час?**

– Адбылося вельмі шмат. Папершае, мы пачалі выдаваць газету «Новы Час». У гэта ніхто не верыў, бо была праблема, як захаваць «Наша слова». І што цікава, паралельна існавала «Наша слова», мы не знішчылі адну газету другой. Больш таго, зараз мы знайшлі магчымасць «Наша слова» выдаваць на 12 старонках замест чатырох, і такая магчымасць захаваецца яшчэ як мінімум год.

Акрамя гістарычных семінараў, вельмі добра ішоў семінар «Як жыць лепей». Гэта сацыялагічна-псіхалагічны семінар на беларускай мове, які накіраваны на тое, каб палепшыць дабрабыт людзей. Гэты семінар распрацаваны нашым земляком Вячкам Станкевічам, і зараз некаторыя выкладчыкі працягваюць яго праводзіць. Тыя, хто трымаўся парадаў, сталі жыць лепей.

За гэтыя два гады мы актыўна прынялі ўдзел у прэзідэнцкай выбарчай кампаніі, выставілі велізарную колькасць назіральнікаў. Мы вытрымалі шмат праверак Міністэрства юстыцыі і не атрымалі ніводнай заўвагі. І самае галоўнае – мы знайшлі агульную мову з Выбаркамам, і яны зрабілі бюлетэні, а таксама ўсе дакументы па-беларуску.

Увогуле мы лічым, што ў нашай сітуацыі вельмі істотна кантактаваць з уладамі. Мы за гэтыя два гады, як не дзіўна, не згубілі гэты кантакт, на нашыя лісты адказваюць міністры і нават прэзідэнт. Мы ідзем на дыялог і такім чынам выйграваем.

Мы правялі акцыі «Размаўляем па-беларуску», «Кахаем па-беларуску», «Таньчым па-беларуску». Выпусцілі значкі «Размаўляй са мной па-беларуску», за гэта атрымалі папярэджанне ад Мінюста. Але мы пайшлі ў Вярхоўны суд, упершыню па-беларуску судзіліся з Мінюстам, фармальна суд прайгралі, але назаўтра Міністэрства юстыцыі адмяніла гэтае папярэджанне.




Мы дабіліся, што нашая геральдыка – бел-чырвона-белая стужка і Пагоня – уключана ў нацыянальны геральдычны рэестр і ахоўваецца законам. Мы выйгралі такія акцыі, як «Дакладны час» – перавялі службу дакладнага часу на беларускую мову. Таксама некалькі месяцаў ваявалі за службу «Надвор'е» і вярнулі туды беларускую мову. Зараз «ваюем» з чыгункай.

Мы дамовіліся з Палатай прадстаўнікоў, што яны распрацуюць змены ў Закон аб мовах, і камісія Палаты падрыхтавала свае прапановы. Гэта значыць, што змены ў Законе чакаюць свайго часу.

За гэтыя два гады ў нас стварылася шмат новых арганізацый, масава ў нашыя шэрагі ўступае моладзь. Толькі за апошнія два месяцы ў Мінску ў ТБМ уступіла больш за сто чалавек. Але ёсць і страты. Напрыклад, некаторыя суполкі зніклі. Развалілася і суполка ў Касцюковічах на Магілёўшчыне, фактычна ліквідаваліся суполкі ў Калінкавічах і Крычаве, ёсць праблемы ў Краснаполлі. Але адначасова ў Воранаўскім раёне стварылася аж 5 суполак, паўстала новая суполка ў Берастравіцы. Так, што станоўчая дынаміка ёсць. Мы адзіная арганізацыя, якая прапаноўвае сваім сябрам рэгулярна плаціць складкі, збіраем ахвяраванні, заахвочваем падпісвацца на нашыя газеты.

**– Ваш прагноз да з'езда, ці чакаюцца нейкія кардынальныя змены ў дзейнасці арганізацыі, магчыма, будуць нейкія інтрыгі...**

– Інтрыгі, канешне, могуць быць, некаторыя іх любяць, і некаторыя ім спрыяюць. Але я зыходжу з таго, што за гэты час стварылася такая моцная структура, што людзі на інтрыгі будуць рэагаваць, я думаю, з гумарам. А так, гэта працоўны з'езд, дзе не плануецца доўгіх паказальных выступленняў. Усе даклады будуць надрукаваныя ў «Нашым слове».

Таксама на з'ездзе хочам стварыць абласную Брэсцкую арганізацыю, абраць новага кіраўніка і зарэгістравацца.

**– Ці плануецца прыняць нейкую заяву ці зварот?**

– Плануецца. Першая заява – у абарону Нацыянальнага ліцэя імя Якуба Коласа, і ў гэтай заяве мы напішам і пра універсітэт. А ў другой заяве мы плануем звярнуцца да грамадзян Беларусі, каб яны з павагай ставіліся да беларускай мовы.

Самае галоўнае – гаварыць людзям праўду, гаварыць з усмешкай, з аптымізмам, з надзеяй на лепшае.

**Ядвіга МАЦКЕВІЧ**

## *Адвечная беларуская праблема*

Неяк даўно, у савецкія яшчэ часы, калі здавалася, што становішча з нашай мовай не можа быць горшым, выпісаў я сабе на памяць балючыя радкі. Напісаў іх аж у 1885 годзе ў нататцы «Адам Міцкевіч на Беларусі» Аляксандр Ельскі, выдатны беларускі краязнаўца і літаратар, аўтар 10.000 артыкулаў для «Геаграфічнага слоўніка зямель польскіх і іншых краёў славянскіх», гэта значыць надта дасведчаны ў справах усяго тагачаснага беларускага абшару:

«Калі заходзіць гаворка пра Міцкевіча і яго сціплае роднае гняздо, міжвольна паўстае пытанне, чаму гэта столькі карыфеяў айчыннай навукі і мастацтва, чаму такіх Хадкевічаў, Несялоўскіх, Рэйтанаў, Касцюшкаў, Багушэвічаў, Манюшкаў, Міцкевічаў, Чачотаў, Кандратовічаў, Занаў, Дамейкаў, Здановічаў, Прозараў, Барташэвічаў, Сямірадскіх, Крашэўскіх і столькі столькі іншых выдала адна зямля. Відаць, тая сапраўды глеба ўрадлівая, калі нараджае такія шчодрыя плёны!.. Праўда, вялікі наш паэт, чэрпаючы дух з народных песень, нічога не пісаў па-беларуску, а аматары яго паэзіі, апрача сціплых вытрымак, зусім не ўзнаўлялі прац майстра на беларускай гаворцы, і гэта нягледзячы на факт, што Беларусь мае неаспрэчнае права ганарыцца Міцкевічам, таму што гэты велізарны дух вырас і сфармаваўся як тып на глебе карэннай літоўскай славяншчыны. Адзін толькі беларускі пісьменнік Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч надрукаваў у Вільні ў 1859 годзе на народнай гаворцы тры часткі «Пана Тадэвуша», якога майстар так прагнуў бачыць пад кожнай вясковай страхой.

Аўтар гэтых слоў таксама спрабаваў перакладаць на беларускую мову некаторыя творы Міцкевіча і мае іх у партфелі, а ўзор яго перакладу «Пана Тадэвуша» быў змешчаны ў № 6 «Краю» за гэты год. Разумеючы бязмерную важнасць выратавальнага ўплыву роднай літаратуры на народ, мы горача і неадноўчы стараліся разбудзіць у грамадзян добрай волі жаданне падтрымліваць папулярныя выданні на беларускай мове, але нашы заклікі не прынеслі жаданага выніку. У сувязі з гэтым міжвольна прыходзіць мне ў галаву сумная страфа з міцкевічавага «Дудара»:

*Як доўгі Нёман я з лірай усцяж іду,*
*Праз горкі, броды, і бары,*
*Ад сяла да слабады,*
*І думачкі свае гуду.*
*Збегаліся людзі, слухалі,*
*Ды нячуям –*
*Не зразумелі мяне хутка –*
*Я слёзы абцёр, хоць сэрцу жутка,*
*Да і далей пашоў сам...»*

Далёка болей за сто гадоў мінула, як пісаў спадар Ельскі гэтыя шчымлівыя радкі, а праблема з нашай мовай толькі абвастралася і абвострылася цяпер у забойчую дзіду. Здаецца, ці даўно стралялі ў Курапатах беларусаў, што адраджалі мову? Але забыты ўжо іх перадсмяротныя стогны. Сёння дзякуючы дасягненням цывілізацыі ў выглядзе праваднога і бесправаднога радыё, каляровага тэлевізара, батарэйкавых прыёмнікаў ды плэйераў паглынае нас усё тая ж рускамоўная стыхія. Дзяржава аддала свой народ пад яе ўладу. Матывацыя такога дзіўнага ўчынку палягае не толькі ў сферы палітычных інтарэсаў людзей улады, але і ў псіхалогіі простых грамадзянаў. У рэшце рэшт, кожны наш асобны чалавек датычна беларускай мовы вырашае, што яму няма часу асвойваць тую навуку, якой кепска вучылі ў школе, а зручна трымацца той мовы, якой вучылі настойліва. А навучылі яго той мове, якая псіхалагічна і культурна прывязвае да чужаземнага асяродка. Таму ён звычна думае, што калі рускі гаворыць на рускай мове – ён рускі патрыёт, калі беларус гаворыць на рускай – ён шчыры інтэрнацыяналіст, а калі беларус гаворыць на беларускай - то ён заўзяты нацыяналіст. Таму пытанні пашырэння беларускай мовы наўрад ці могуць быць вырашаны культурніцкай прапагандай. Толькі ўлада можа адпаведна рэфармаваць школу і выхаванне. А нашая апазіцыя паводзіць сябе як і цёмныя, як крот, грамадзяне – трымаюцца звычнага і прапагандуюць на рускай мове. Што ж яны мараць пабудаваць, калі патрапяць ва ўладу? Шэсць губерняў?

**Іван БАРЭЙКА, Баранавічы**

# А бераг высокі і роўны...

**Бліжэйшым часам у Беларусі будуць пабудаваныя адразу некалькі гідраэлектрастанцыяў дзеля паляпшэння энергетычнай бяспекі краіны. Здабыча сваёй энергіі будзе нашмат таннейшая за імпартаваную. Але не ўсё так адназначна добра і гладка, як здаецца. Будаўніцтва некаторых ГЭС гукнецца беларускай прыродзе цэлым шэрагам негатыўных наступстваў.**



ГЭС, у прыватнасці, будуць пабудаваныя блізу Полацку і каля Гродна (ажно дзве – вялікая і малая). Полацкая ГЭС мае стаць самай магутнай у Беларусі – на 23 МВт, Гродзенская – на 17 МВт. Вакол узвядзення гідраэлектрастанцыі каля Гродна, якое мусіць пачацца гэтай восенню, разгарнулася вялікая спрэчка паміж энергетыкамі і эколагамі. Першыя даводзяць пра эканамічныя перавагі, другія – пра шкоду навакольнаму асяроддзю.

Найперш энергетыкі кажуць пра тое, што ГЭС цалкам можа забяспечыць энергетычныя патрэбы такога прадпрыемства, як «Хімвалакно», ці асвятліць увесь абласны цэнтр. Апрача таго, на ўсе тры гады будаўніцтва станцыі хопіць працы ўсёй рэгіянальнай будаўнічай галіне. А іхтыёлагі даводзяць, што калі будзе пастаўленая плаціна і зробленае водасховішча, у Нёмане амаль утрая павялічыцца колькасць рыбы, прычым з'явяцца новыя віды.

Паводле эколагаў, ГЭС – гэта наогул учарашні дзень. Каб перадолець энергетычны крызіс, трэба, як у Еўропе, рабіць стаўку на энергаашчадныя тэхналогіі. Будаўніцтва гідраэлектрастанцыі пашкодзіць і зменіць гідралогію Нёмана. У яго рухомае рэчышча, якое ствараецца пад заўсёдным уздзеяннем пясчаных наносаў. Плаціна ж пясчаныя патокі перакрые, з-за чаго ніжэй яе ўзнікнуць глыбокія равы. Рака пойдзе ўглыб, у раёне Гродна ейны ўзровень апусціцца на некалькі дзесяткаў сантыметраў – гэта значыць падмыюцца і аголяцца берагі, падводныя магістралі, мостаўвыя апірышчы. З гэтым у свой час ужо сутыкнуліся літоўцы на прыкладзе Каўнасскай ГЭС.

У энергетыкаў і эканамістаў ёсць яшчэ адзін казыр: маўляў, з'яўленне водасховішча дазволіць развіваць турызм. Дарэчы, разам з вялікай гідраэлектрастанцыяй у Гродна будзе пабудаваная малая на Аўгустоўскім канале. Але збольшага не дзеля электраэнергіі, а пад прыцягненне інвестыцыяў на турыстычную перспектыву. Аднак такія планы парыруюцца тым, што турызму ў першую чаргу спрыяе не наяўнасць водасховішча, а адмысловая інфраструктура, пачынаючы з дамоў адпачынку.

Такі вось дылемны праект. Хаця спакуса адрадзіць славуты Аўгустоўскі канал, канечне, надта вялікая. Гэта сапраўдны помнік гідратэхнічнага будаўніцтва 19-га стагоддзя. Яго пачалі будаваць за Расійскай імперыяй у 1827 годзе: Прусія тады ўстанавіла вялікае мыта, і трэба было шукаць новы гандлёвы шлях да Балтыйскага мора. Праўда, у хуткім часе Прусія высокія мытныя зборы скасавала, гандлёвыя перавозкі пачалі ажыццяўляцца па чыгунцы, але Аўгустоўскі канал усё адно дабудавалі да канца і сталі выкарыстоўваць у гаспадарчых мэтах. Прыкладам, сплаўлялі па ім лес.

Аўгустоўскі канал злучае рэкі Вісла і Нёман праз прытокі Бебжу і Чорную Ганьчу, мае 5 метраў ушыркі і 102 кіламетры даўжыні. З іх 80 кіламетраў праходзіць па тэрыторыі Польшчы. Але польская частка канала дагледжаная як след, тут перавозяць тысячы турыстаў, а наш меншы ў некалькі разоў участак у поўным заняпадзе. Карацей, у Польшчы гэта папулярны турыстычны аб'ект, у нас – зарослы, з разбуранымі берагамі водны паток. Беларускі ўчастак Аўгустоўскага канала запушчаны настолькі, што па ім немагчыма ні груз які перавезці, ні турыстаў на кацеры пакатаць. Патрэбная рэканструкцыя, якая абыдзецца ў 10 мільёнаў долараў. Мог бы атрымацца цікавы водны маршрут: тых жа польскіх турыстаў можна было б вазіць спачатку па Аўгустоўскім канале, а потым па Нёмане да Гродна і Друскенікаў.

Без знешняй дапамогі беларусам у справе рэканструкцыі канала не абысціся. Проста няма такіх грошай, бо нават з такімі прыярытэтнымі гісторыка-культурнымі аб'ектамі, як Мірскі ці Нясвіжскі замкі, вунь колькі шматгадовага клопату. Інвестыцыі можна было б прыцягнуць, уключыўшы Аўгустоўскі канал у Спіс сусветнай культурнай і прыроднай спадчыны, у якім Беларусь пакуль што прадстаўленая толькі Белавежскай пушчай і Мірскім замкам.

**Мар'ян КАРЫМОНТ**

# Навуковыя набыткі эмігрантаў

***Дзейнасць беларускай эміграцыі на ніве навукі ў ФРГ у 1965–1990 гадах***

Азнаямленне беларускай грамадскасці з навуковымі набыткамі эмігрантаў, у тым ліку і тых, хто жыў і жыве ў Германіі, адбываецца марудна нават сёння.

Важным цэнтрам гуртавання беларускіх эмігранцкіх навуковых сіл у Заходняй Еўропе быў Мюнхен (ФРГ), дзе з 1955 да 1966 г. працаваў самастойны аддзел Беларускага інстытута навукі і мастацтва (БІНІМ), які быў адчынены ў Нью-Ёрку 16 снежня 1951 г. З 1952 да 1966 г. у Мюнхене дзейнічала і беларускае выдавецтва «Бацькаўшчына», дзе сярод іншых выходзіў навуковы часопіс «Запісы БІНІМ».

Асобна трэба спыніцца на постаці беларускага гісторыка-эмігранта Паўла Урбана. Ён працаваў у Мюнхене да 1972 г. у Інстытуце па вывучэнні СССР, быў скарбнікам і адміністратарам выдавецтва «Бацькаўшчына». П.Урбан рыхтаваў матэрыялы і пісаў артыкулы для часопіса «Запісы БІНІМ», газеты «Бацькаўшчына», Беларускай рэдакцыі радыё «Свабода» ў Мюнхене, супрацоўнікам якой стаў з 1974 года. Ён вывучаў хронікі, летапісы, мемуары і даследаванні замежных даследчыкаў. Сачыў за гістарычнымі выданнямі ў Беларусі. У 1972 г. ён выдаў грунтоўнае гістарычнае даследаванне «У сьвятле гістарычных фактаў» (Мюнхэн, Нью-Йорк) у адказ на брашуру Л.Абэцэдарскага «У святле неабвержных фактаў» (Мн., 1969). Цэнтральнымі тэмамі з'яўляліся пытанні паходжання беларусаў, існавання ў мінулым іхняй дзяржавы, яе «залатога веку», нацыянальнай прыналежнасці кіруючай эліты ВКЛ.

У працы 1982 г. «Ці імкнецца беларускі народ (беларусы ў БССР) да незалежнасці?», якая была передрукавана ў часопісе «Куфэрак Віленшчыны» (2000, №1), П.Урбан паказаў развіццё працэсу ўсебаковага нацыянальнага адраджэння ў БССР, даследваў самавыдат Беларусі і інш. Вучоны мае іншыя публікацыі з розных перыядаў гісторыі Беларусі па складаных пытаннях гістарыяграфіі і палітыкі – на беларускай, рускай, англійскай, нямецкай, французскай мовах.

Навуковы часопіс «Запісы БІНІМ» у 1966 г. змясціў, у прыватнасці, даследаванні С.Станкевіча «Беларуская падсавецкая літаратура першай палавіны 1960-х гадоў», Я.Запрудніка «Справа аўтаноміі Беларусі ў Першай Думе і «Наша Ніва»», яго ж матэрыялы, прысвечаныя Першаму Усебеларускаму з'езду 1917 года, працу С.Брагі «Пытанне імя доктара Скарыны», і іншыя.

Нумар за 1970 г. быў цалкам прысвечаны 450-й гадавіне беларускага кнігадрукавання. Тут змешчаны даследаванні С.Брагі «Доктар Францішак Скарына», В.Тумаша «Скарына ў Падуі» і «Кнігі Скарыны ў Італіі першае палавіны XVI ст.», Я. Садоўскага «Лексічныя асаблівасці Кнігі Царстваў Скарыны», гістарыяграфічны нарыс В.Тумаша «Бібліяграфія Скарыніяны» і іншыя матэрыялы. Усяго ў гэтым нумары «Запісаў БІНІМа» складальнік і галоўны рэдактар В. Тумаш скампанаваў чатыры навуковыя артыкулы, шэсць кароткіх паведамленняў і бібліяграфічны паказальнік.

Наступны нумар часопіса ў 1975 г. быў выдадзены ўжо ў Нью-Ёрку. У 1978 г. у Мюнхене выйшла даследаванне В.Жук-Грышкевіча «25 сакавіка», у якім ён падтрымлівае тэзіс Я.Менскага аб тым, што Актам ад 25 сакавіка 1918 года ідэя беларускай нацыянальнай дзяржаўнасці была завершана і рэалізавана.

Заахвочванню даследаванняў па гісторыі Беларусі і публікацыі іх вынікаў садзейнічала навукова-даследчая і выдавецкая ўстанова беларускай эміграцыі ў ФРГ – Інстытут Беларусаведы, які адчыніўся ў Ляймене ў 1982 г. З 1986 г. тут выдаваліся «Весткі Інстытута Беларусаведы», дзе сярод іншых матэрыялаў друкаваліся навуковыя працы беларускіх эмігрантаў.

У 1986 г. пад грыфам Інстытута Беларусаведы пабачыла свет кніга Р.Астроўскага «Беларусь з X да XVI ст.». Пазней выйшлі кнігі: «Гераічная песня пра Ігара», «Вытокі беларускай нацыі і культуры» і іншыя. Дарэчы, «Гераічная песня пра Ігара» – старажыт-




ны помнік славянства – змяшчалася ў аналагічнай па назве кнізе на трох мовах – старажытнарускай, беларускай і нямецкай. Зборнік артыкулаў і матэрыялаў «Вытокі беларускай нацыі і культуры» пад рэдакцыяй Ю.Попкі складаўся з уводзінаў, напісаных Я.Белавежскім, артыкулаў «Культурная і адукацыйная дзейнасць на Беларусі ў XIV-XVI стагоддзях» Р.Астроўскага, кароткага гістарычнага нарыса «Беларусь» Ю.Попкі, яго апавядання «Святы меч», ліста беларускай інтэлігенцыі да М.Гарбачова, беларускага нацыянальнага гімна: «Мы выйдзем шчыльнымі радамі».

Для інфармавання заходніх палітычных і навуковых колаў у 1979–1991 гг. выходзілі ў Боне (ФРГ) гадавыя агляды беларускага савецкага друку.

Найбольш вядомы навуковы дзеяч беларускай эміграцыі ў свеце – Б.Кіт. Ён з 1965 г. – сябра астранаўтычнага таварыства імя Г.Обэрта ў Германіі, а з 1976 года ўваходзіў у яго кіраўніцтва. У 1986 годзе беларускі эмігрант атрымаў залатую ўзнагароду ад Таварыства імя Г.Обэрта за ўклад у развіццё астранаўтыкі.

Выйшаўшы на пенсію Б. Кіт выбраў для сталага пражывання Германію. У 1972 годзе ён пераехаў у Франкфурт-на-Майне. Тут ён стаў прафесарам матэматыкі Еўрапейскага аддзела Мэрылендскага універсітэта, чытаў лекцыі ў філіялах Нюрнберга, Вісбадэна, Дармштадта, Гейдэльберга, Ганау. У 1987 годзе яму быў уручаны дыплом заслужанага прафесара, а ў 1990 – ганаровага прафесара Мэрылендскага універсітэта.

Адначасова з пачаткам педагагічнай дзейнасці ў Еўропе Б. Кіт пачаў працаваць над доктарскай дысертацыяй на ступень доктара філасофіі ў галіне матэматыкі, якая пасьпяхова была абаронена ў 1982 годзе на вучоным савеце Рэгенсбургскага універсітэта і ў 1983 годзе выйшла асобнай кнігай пад назвай: «Antoni Zygmund, his life and his contribution to the mathematics of 20th century» («Антоні Зыгмунд. Яго жыццё і яго ўклад у развіццё матэматыкі XX стагоддзя»). Зварот да постаці А.Зыгмунда ў Б.Кіта не выпадковы, бо Зыгмунд узначальваў матэматычную школу універсітэта С.Баторыя ў Вільні, калі там вучыўся Б.Кіт. Гэтая дысертацыйная праца




была прызнана найлепшай доктарскай працай матэматычнага факультэта ў Рэгенсбургу за 1983 год, і яе можна ўбачыць у бібліятэках амаль што ўсіх універсітэтаў Заходняй Еўропы.

У 1987 годзе ў часопісе «Astronautik», які выдаваўся ў Гановеры, быў апублікаваны артыкул Б.Кіта «Мае асабістыя ўспаміны пра былога прафесара Гетынгенскага універсітэта Тэадора фон Кармана»(1881–1963), дзе расказваецца не толькі пра жыццёвы шлях і навуковую дзейнасць выдатнага вучонага, сустрэчы і супрацоўніцтва Б.Кіта з фон Карманам, але і пра той час, калі вяліся даследаванні ракетнага паліва.

З дзейнасцю беларускай эміграцыі ў даследуемы перыяд знаёміла радыёстанцыя «Свабода», якая вяшчала з Мюнхена.

**Міхась ЛЕБЕДЗЬ,**
**аспірант Інстытута гісторыі НАН Беларусі**

# Моўны палон

Заўсёды робіцца прыкра, калі людзі, недасведчаныя ў нейкай справе, пачынаюць «прафесійна» пра гэтую самую справу пісаць. Так, усё больш чуецца галасоў у афіцыйных сродках масавай інфармацыі з заклікамі пазбавіцца ад беларускай мовы. Пры гэтым апаненты абгрунтоўваюць гэта «исторической неизбежностью» і часта падаюць недакладныя альбо няпраўдзівыя звесткі. Чаго варты вельмі распаўсюджаны аргумент, што «...славянский, или русский, язык на наших просторах стал распространяться вместе с письменностью и новой религией – христианством...» Гучыць прыгожа, але абсалютна непісьменна, паколькі славяне жылі на гэтай тэрыторыі задоўга да прыняцця хрысціянства і тым больш – пісьмовасці.

Іншы распаўсюджаны прыём – гэта перанос сучаснага паняцця «рускі» на больш даўнія часы. Прабачце, паважаныя, але так можна дайсці да сцверджання, што франкі - гэта французы, а французы – гэта франкі, ці готы – гэта немцы, немцы – гэта готы. Ці не праўда, гучыць неяк недарэчна? Усе сучасныя нацыі пачалі сваё фармаванне самае ранняе ў XVIII стагоддзі, і толькі ў працэсе нацыянальнага станаўлення яны распрацоўвалі для сябе лінгвонімы (назвы ўласнай мовы). Сучасныя паняцці «рускі», «украінец», «беларус» – з'явы познія, і таму гэтыя назвы, у сучасным іх разуменні, нельга пераносіць на больш раннія часы. Паняцце «рускі» было больш шырокім, мела, як мяркуюць многія даследчыкі, канфесійнае адценне. Але гэта не значыць, што гэтае самае насельніцтва не дыферэнцавалася. Калі пачытаць старабеларускія летапісы, то бачна, што нашыя продкі выразна адрознівалі сябе ад жыхароў Маскоўскага княства, называючы сябе рускімі, а тых «маскоўцамі» ці «маскавітамі».

Яшчэ адзін аргумент: беларуская мова – гэта сумесь польскай і расійскай. А чаму не ўкраінскай і славацкай? Калі карыстацца гэтым аргументам, то можна сцвярджаць, што любая славянская мова – сумесь з суседніх славянскіх моў. Паважаныя спадары мабыць не ведаюць, што ў мовазнаўстве ёсць такое паняцце, як «моўны кантынуум». Сутнасць гэтага паняцця ў тым, што на пэўнай тэрыторыі існуе некаторая колькасць дыялектаў, якія маюць агульны генезіс (паходжанне). Яны ўсе, фактычна, з'яўляюцца пераходнымі паміж сабой. Можа так здарыцца, што на гэтай тэрыторыі ў будучым можа стварыцца адна мова, а можа – дзесяць, і усё залежыць ад гістарычных, палітычных, эканамічных фактараў. А рысы, характэрныя для сучаснай беларускай мовы сфармаваліся, па розных ацэнках, у перыяд паміж X–XIII стст. Зразумела, што мова ў тыя часы так не называлася, ды многія мовы Еўропы мелі тады іншыя назвы.

Для большай «важкасці» сваёй пазіцыі, карыстаючыся недасведчанасцю грамадзян, сучасныя праціўнікі ўжывання беларускай мовы выкарыстоўваюць няпраўдзівую інфармацыю пра стан некаторых еўрапейскіх моваў, якія нядаўна знаходзіліся на мяжы знікнення. Адзін з «аргументаў» ідэолагаў «гістарычна апраўданага панавання» рускай мовы на абшарах Беларусі – гэта становішча ірландскай мовы. Маўляў, ірландцы зусім забыліся на родную мову, трохі шкадуюць, што яна амаль знікла, але карыстаюцца англійскай мовай штодня і пры гэтым памятаюць пра сваё паходжанне. Увесь час нас хочуць пераканаць, што беларусы, як і ірландцы, могуць не гаварыць на сваёй роднай мове, але ідэнтыфікаваць сябе як беларусы. Насамрэч сітуацыя з ірландскай мовай выглядае не зусім так, як гэта падаюць. Так, новыя лічбы з дадзеных перапісу 2001 г. у Паўночнай Ірландыі паказваюць, што колькасць тых, хто ў рознай ступені ведае ірландскую мову, вырасла на 25.487 чалавек у параўнанні з 1991 г. У 1991 годзе 142.003 чалавек (9,45% насельніцтва) валодалі ірландскай мовай. Зараз лічба ўзрасла да 167.490 чалавек (10,4% насельніцтва). І гэта толькі ў Паўночнай Ірландыі. У самой Ірландыі мінімум 300.000 чалавек карыстаюцца мовай актыўна і яшчэ каля 700.000 могуць чытаць і разумець. Ірландцы вельмі непакояцца за стан сваёй мовы. Зараз, не без ціску з боку грамадскасці, прымаецца новы закон аб мовах, які патрабуе рэальнага двухмоўя і павагі да ірландскамоўных. Цяпер, калі чалавек звернецца да чыноўніка па-ірландску, той мусіць адказваць па-ірландску. Вельмі яскравы выпадак падтрымкі ірландскай мовы можна назіраць і ў тым, як да мовы ставіцца прэзідэнтка Ірландыі Мак Аліс, якая настояла, каб яе біяграфія была надрукавана на ірландскай мове, а на англійскай яна з'явіцца толькі праз год (www.eurolang.net). Выдзяляюцца значныя грошы на падтрымку мовы. Паводле The Irish language (даведніка, выдадзенага на грошы ўраду Ірландыі), 66% ірландцаў лічаць, што Ірландыя страціць сваю тоеснасць без ірландскай мовы, 69% мяркуюць, што дзеці абавязкова павінны ведаць мову, і 73% упэўнены, што ні адзін сапраўдны ірландзец не можа выступаць супраць ірландскай мовы.

Падобныя працэсы можна назіраць па ўсёй Еўропе. Еўрапейцы мяркуюць, што любыя мовы - вялікае багацце і разнастайнасць для новай Еўропы. У Канстытуцыі Еўропы запісана, што ніводная мова Еўропы не знікне, і ўсім будзе аказвацца патрэбная дапамога. Але не ўсе краіны паважаюць правы чалавека ў лінгвістычнай сферы. Сярод такіх краін згадваюцца: Іспанія, Францыя, Беларусь, Грэцыя, Турцыя, Латвія, Сербія. У гэтых краінах назіраюцца самыя значныя выступленні людзей у абарону сваіх лінгвістычных правоў. Так, нядаўна прайшла дэманстрацыя брэтонцаў у Рэне супраць дыскрымінацыйнай палітыкі французскага ўраду. Іспаніі ўвогуле пагражае дэстабілізацыя палітычнай абстаноўкі, паколькі палітыка іспанскага ўраду, скіраваная на асіміляцыю, прывяла да буйных дэманстрацый баскаў у Навары і Краіне Баскаў, каталонцаў у Каталоніі, Валенсіі, на Балеарскіх астравах. Галісійцы і астурыйцы таксама падалі пратэсты ў Еўрапарламент супраць моўнай палітыкі ўраду Іспаніі (Eurolang, Mercator).

З іншага боку ёсць прыклады цывілізаванага стаўлення да мясцовых моў. У Шатландыі гэльскую мову зрабілі афіцыйнай і ўсімі сродкамі яе папулярызуюць. Для распаўсюду гэльскай мовы нават стварылі адмысловую пасаду прадстаўніка па сувязі з прэсай. У яго задачу ўваходзіць распрацоўка, арганізацыя і правядзенне візітаў у парламент з каментарамі на гэльскай мове, прадастаўленне інфармацыі і даведак для гэльскамоўных і тых, хто вучыць мову, праверка дакладнасці перакладу на гэльскую ў парламенце, падрыхтоўка парламенцкай інфармацыі і г.д.

Лекі ад асіміляцыі ёсць - гэта выкананне законаў. Калі ў нас двухмоўе, то чыноўнік, згодна з законам, павінен ведаць абедзве дзяржаўныя мовы. І калі беларускамоўны чалавек прыходзіць да яго, то ён абавязаны адказваць не па-руску, а па-беларуску. Двухмоўе – гэта дзве мовы, а не адна. Прыкладамі могуць служыць Фінляндыя і Нарвегія, дзе нельга заняць дзяржаўны пост, не здаўшы іспыты па абедзвюх дзяржаўных мовах. У Нарвегіі трэба ведаць два варыянты нарвежскай мовы, каб заняць пасаду ў дзяржаўнай установе, а ў Фінляндыі веданне дзвюх моў абавязковае ў раёнах, дзе жывуць шведы. Гэта называецца павагай да закону і да асобы чалавека, чаго не назіраецца, на жаль, з боку чыноўнікаў у нашай краіне.

У канцы, згадваючы ірландскае пытанне, хочацца сказаць: ні адзін сапраўдны грамадзянін Беларусі не можа выступаць супраць беларускай мовы, бо яна наша адметнасць і прыкмета нашай тоеснасці.

**Уладзімір КОШЧАНКА,**
**Сяргей КРУЧКОЎ**

# Моўная асоба

## Да пастаноўкі пытаньня аб спецыфічнасьці беларускай моўнай асобы

У розных галінах навукі адзначалася сувязь паміж мовай, маўленьнем і асобай. Вядомы выраз Бахціна: «асоба – гэта загнанае ўнутр слова». Адзначаецца, што сама мова мае асобасныя характарыстыкі: усьведамленьне свайго «Я», рэфлексія, самавыражэньне і самарэгуляцыя. Мова лічыцца і ўвасабленнем нацыянальна-культурных асаблівасьцяў.

Унутраны дыялог можна лічыць носьбітам і рэялізатарам самасьвядомасьці. Некаторыя лінгвісты лічаць асобу чалавекам, які засвоіў у працэсе сацыялізацыі сваю існасьць, у тым ліку і мову ў аб'ёме дастатковым для вытворчасьці, у тым ліку і моўных каштоўнасьцяў. Можна, аднак, не пагадзіцца з меркаваньнем, што чым ярчэй моўная індывідуальнасьць, тым паўней яна люструе моўныя якасьці грамадства, бо ў нашым грамадстве найбольшыя моўныя арыгіналы – беларускамоўныя, зусім не падобныя ў гэтым на астатніх.

Трэба, аднак, заўважыць нявызначанасьць адносінаў паміж паняцьцямі асобы ўвогуле і моўнай асобы. Ў літаратуры прадстаўлена толькі ўзгадка Каравулава, згодна з якой моўная асоба – не частка, а від асобы.

Моўная асоба – гэта параўнаўча новы тэрмін у псіхалогіі, хаця ў лінгвадыдактыцы і ў лінгвістыцы ён выкарыстоўваецца ўжо досыць даўно. Каравулаў разглядае моўную асобу (далей – МА) як шматслойны, шматкампанентны, структурна ўнармаваны набор моўных здольнасьцяў, уменьняў, гатоўнасьцяў утвараць ды ўспрымаць моўныя творы. Ён вылучае тры падыходы да МА: з боку псіхалогіі маўленьня, лінгвадыдактыкі і тэорыі мастацкай літаратуры. Адзначаецца сьпецыфічна-нацыянальная прырода МА, што дае падставы вывучаць менавіта беларускую МА, тым больш, што яна практычна не дасьледавана. Цікава, што Каравулаву ўласьціва вузкае разуменьне МА не як рэяльнай асобы, а як абстрактнага аўтара тэкстаў, то бок пісьменьніка.

У больш позьні час сфармаваліся два падыходы да МА: як да тыповага прадстаўніка моўнага калектыву і як да пэўнага гаворачага чалавека.

Досыць распаўсюджаны погляд на МА як на сукупнасьць гатоўнасьцяў чалавека ствараць пэўныя маўленчыя ўчынкі. Шэраг навукоўцаў разглядае гэтыя гатоўнасьці як эквіваленты маўленчых здольнасьцяў. Згодна з іншай думкай, маўленчыя здольнасьці - гэта сукупнасьць умоваў, што забяспечваюць засваеньне, утварэньне і ўзнаўленьне знакаў членамі моўнага калектыву.

Ужо адзначалася, што МА мае некалькі ўзроўняў. Каравулаў вылучаў тры ўзроўні: узровень элементарных маўленчых актаў, узровень псіхічных працэсаў пры маўленьні, узровень матываў і мэтаў зносінаў. Кожнаму з узроўняў адпавядаюць свае гатоўнасьці. Богін вылучае пяць узроўняў: правільнасьці, інтэрыярызацыі, насычанасьці маўленьня сродкамі, адэкватнасьці выбару адзінак і адэкватнасьці іх сінтэзу. Кожнаму ўзроўню адпавядае свая працяглась маўленчага ланцуга, які разумеецца, а таксама тыпалогія тэкставых сітуацыяў і відаў разуменьня тэксту. Называюць і іншыя ўзроўні: лінгвістычны (здольнасьць выразіць сэнс), нацыянальна-культурны (валоданьне нацыянальна-культурна абумоўленай спецыфікай моўных сродкаў, словаў), сітуацыйны (здольнасьць паводзіць сабе камунікатыўна-адэкватна ў пэўнай сітуацыі). Фізічны, сацыяльны, моўнадумкавы, інтэлектуальны, інш. Гэтак бачым, што ў сістэме «гатоўнасьцяў» ёсьць і сацыяльныя, інтэлектуальныя здольнасьці.

Аўтары называюць сярод складаючых МА нацыянальны менталітэт, моўныя веды, гуманізм. Беларускі дасьледчык Яленскі ўключае ў яе ментальнасьць і эмацыйнасьць і прапануе паняцьце этыка-маўленчага камунікатыўнага ядра асобы як сінтэзу ўяў і ведаў, рэякцый, эмоцыяў, здольнасьцяў, уменьняў.

Разгледзім працэс разьвіцьця МА. Бадай, найбольш падрабязна ён дасьледаваны Г.Быкавай. Згодна з ёй, разьвітая МА – асоба, якая валодае запасам моўных сродкаў і выкарыстоўвае іх у зносінах з улікам камунікатыўнай сітуацыі, прычым працэс выхаваньня МА падзяляецца на навучаньне ўласна мове і фармаваньне маўленчай кампетэнцыі для карыстаньня мовай у пэўнай сітуацыі. Сродкі разьвіцьця МА: зносіны, дыскусіі, рэфераты і інш., аналіз твору, асобасны, гуманістычны падыход у вывучэньні мовы.

Разьвіцьцё МА залежыць ад разьвіцьця ўменьня разумець тэкст. Складаныя тэксты задаюць МА высокія запатрабаваньні і разьвіваюць яе. Асобнае месца займае рэцэпцыя мастацкіх твораў. Аднак і сам працэс чытаньня мае асобасныя функцыі: каштоўнасныя, эмацыйна-камунікатыўныя і інш.

Да паняцьця МА блізкае паняцьце моўнае кампетэнцыі ў Яленскага як здольнасьці ствараць граматычна слушны тэкст. Е.Бажовіч дадае ў кампетэнцыю вопыт і веды, што дапаўняюцца і асэнсоўваюцца ў навучаньні. Існуе і паняцьце рэцэптыўнай кампетэнцыі як здольнасьці ўспрымаць і разумець тэксты. Узровень кампетэнцыі залежыць ад сьферы зносінаў, то бок адзін чалавек можа мець розныя ўзроўні ў розных тыпах сітуацыі, у яе ўваходзяць камунікатыўныя каштоўнасьці.

Маўленчае разьвіцьцё таксама можа лічыцца асьпектам МА. Яно кепска дасьледавана і на беларускім матар'яле ў прыватнасьці, што адзначае вядомы беларускі лінгвадыдакт Старжынская. Успрыняцьце тэксту, у прыватнасьці, мастацкага, называецца як сродак маўленьчага разьвіцьця, што дасягаецца ў тым ліку разьвіцьцём формаў выразу думкі, узбагачэньнем маўленьня.

У апошні час зьявіліся паняцьці другаснай МА чалавека, які валодае замежнай мовай, і маўленчай асобы як сукупнасьці элементаў МА , што рэалізуюцца ў пэўнай сітуацыі.

Практычна не дасьледавана МА білінгва, у прыватнасьці беларускага білінгва, і роля беларускіх тэкстаў ў яе фармаваньні. Не існуе досьледаў беларускай моўнай асобы і яе кагнітыўных і іншых асаблівасьцяў. Можна вылучыць гіпотэзу аб сьпецыфічнасьці беларускае МА з-за унікальных сацыяльна-псіхалагічных і кагнітыўных умоваў функцыянаваньня беларускай мовы.

**Дзяніс ТУШЫНСКІ**

## Глабальны маскоўскі план

Расійскае Міністэрства замежных справаў будзе дамагацца надання рускай мове статусу афіцыйнай на ўсёй прасторы былога Савецкага Саюза. Пра гэта заявіла першая намесніца міністра замежных справаў Элеанора Мітрафанава, выступаючы перад студэнтамі маскоўскага Міжнароднага універсітэта. Найперш гэта датычыць тэрыторыяў кампактнага пражывання рускамоўнага (не толькі рускіх) насельніцтва. На думку намесніцы міністра, у краінах СНД і Балтыі руская мова выціскаецца з грамадскага жыцця, скарачаецца аб'ём тэле- і радыёвяшчання на рускай мове. Чаму руская мова павінна быць афіцыйнай у незалежных краінах, намесніца не патлумачыла.

Э.Мітрафанава паведала пра сродкі, якія былі выдзелены ў 2003 годзе на падтрымку рускай мовы і рускамоўнага насельніцтва за межамі Расіі. «10 мільёнаў рублёў пойдуць на пастаўкі расійскіх вучэбных дапаможнікаў у краіны СНД, перападрыхтоўку настаўнікаў рускай мовы, адпачынак дзяцей з рускамоўных сем'яў у расійскіх лагерах і санаторыях, а таксама на падтрымку ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны. У 2004 годзе на гэтыя мэты будзе выдаткавана 252 мільёны рублёў».

Пакуль што руская мова мае афіцыйны статус у Казахстане, а ў Кіргізіі і Беларусі прызнаная дзяржаўнай (гэта значыць, што Беларусь аплочвае дапаможнікі, настаўнікам мовы чужой дзяржавы за кошт сваіх падаткаплацельшчыкаў).

## 200-гадовы юбілей

У Тартускім універсітэце, на факультэце эстонскай і фіна-вугорскіх моваў адбыліся юбілейныя ўрачыстасці (канферэнцыя і выстава), прысвечаныя 200-годдзю пачатку навучання на роднай мове. У 1803 годзе ў Тарту ўпершыню пачалося навучанне на эстонскай мове студэнтаў багаслоўскага факультэта, на якім рыхтавалі пастараў для эстонскіх прыходаў (да таго мовамі навучання былі руская і нямецкая). Толькі пасля набыцця Эстоніяй незалежнасці ў 1918 годзе эстонская мова стала афіцыйнай мовай ва універсітэце і пачалася падрыхтоўка выкладчыкаў і даследчыкаў эстонскай мовы.

# Кладачкі паміж пазаўчарашнім і сённяшнім

Мемуары

Адам МАЛЬДЗІС

## Кладачка першая

### *Як ад мяне аддалялася Вільня*

Вільня была першым горадам, які ўвайшоў у маю свядомасць. Пабываў я там раней, чым нават у парафіяльным Астраўцы, тады мястэчку. Раней нават, чым на суседняй станцыі Гудагай. Бо ехалі мы ў Вільню не цягніком, а фурманкай. З вечара бацька запрагаў каня, клаў пад ніз некалькі бярэмаў сухіх дроў, маці выносіла клункі з адбеленым палатном, якое сама ткала, як і дываны, на кухні на маленькіх кроснах, з пасыпанымі кменам сырамі ў трохкутных мяшэчках з суравога палатна. Адціскаліся яны ад сыраваткі на зэдліку каля печы на кухні пад двума камянямі. Адзін з такіх камянёў, неабачліва пакладзены старэйшай сястрой каля парога, стаў прычынай маёй асабістай трагедыі ў раннім дзяцінстве. З-за яе я ехаў у Вільню не седзячы, як бацькі, а лежачы ў гіпсавым ложачку, зробленым у той жа Вільні. Гэта мела свае недахопы – не бачыш па дарозе ні Шумска, ні Новай і Старой Кены, ні самой Вільні. Але затое ўглядаешся ў зоркі, якія мігцяць скрозь галіны прыдарожных дрэў. І жывеш прадчуваннем сустрэчы з іншым светам – Вільняй. І нарэшце з'яўляліся яе дахі, вежы касцёлаў і цэркваў. Ні бацькі, ні тым болей я не задумваліся тады, чыя яна: калі мы едзем туды, калі там жывуць родзічы, значыць, яна свая, наша.

Дарогу ў Вільню можна было распазнаць па грукаце колаў. Спачатку ішла выбоістая каляіна, дзе яны падскоквалі на парослых карэннях соснаў і бяроз, потым, за Кенай, колы пачыналі туркацець па бруку. Нарэшце туркатанне зусім знікала, і толькі чуваўся цокат капытоў. Гэта значыла, што мы ўжо на высланай клінкерам Базыльянскай, дзе жыў бацькаў брат Вінцэнты. Але да яго мы заязджалі пазней, пасля рынку «Пад галяй», дзе маці прадавала палатно і малочнае. А дровы мы пакідалі ў падарунак цётцы Жукоўскай, якая жыла ў драўляным доме побач, на Піўнай.

Часам даводзілася заначаваць ці на Базыльянскай, ці на Піўнай. Відаць, як думаецца сёння, з-за мяне, з-за кансультацый з прафесарам Міхейдам, якому пакідаліся ці не ўсе злотыя, заробленыя на рынку. І тады, вечарам, цябе акружалі невядомыя ў Расолах гукі і пахі. Гучала чамусьці не польская, бо Вільня тады, у Другой Рэчы Паспалітай, была спрэс паланізаваная, а руская, нязвычная, але ўжо зразумелая руская мова. Бацька пераходзіў на рускую адразу і свабодна – адчувалася вайсковая служба ў Туркестане (з таго часу ўбілася ў галаву назва Кушка). Маці бар'ер не пераадольвала, але яе беларускую мову лёгка разумелі. Я ж пераважна маўчаў, ашаломлены горадам. Углядаўся ў лампады, якія тут гарэлі пад абразамі, а ў нас іх чамусьці не было. Потым са здзіўленнем даведаўся, што мы, як тады казалі, рознай веры: бацька і яго вясковы брат Ян, уся матчына радня – каталікі, а гарадскія – цётка Караліна і дзядзька Вінцэнты – наперакор сваім імёнам праваслаўныя. Яшчэ пазней зразумеў, чаму гэтак адбылося: у сувязі з падаўленнем паўстання 1863 года дзядоў пад прымусам перавялі ў праваслаўе, парафіяльны касцёл у Астраўцы ператварылі ў царкву, а потым, калі пасля рэвалюцыі 1905 года была дадзена магчымасць зрабіць выбар, вясковая радня вярнулася ў каталіцтва, гарадская ж засталася ў праваслаўі, што, зрэшты, не перашкодзіла маім віленскім стрыечным братам і сёстрам пасля вайны выехаць у Польшчу. Разнавер'е не перашкаджала і нам: на праваслаўны Вялікдзень мы ездзілі ў Вільню, ішлі, натуральна, з раднёй у царкву. На каталіцкі ж Вельканац віленчукі прыязджалі – ужо цягніком – у вёску. Усе адчувалі сябе найперш хрысціянамі. Такое адчуванне засталося і ў мяне. Праўда, у пяцідзесятыя гады яго моцна прытупілі прымусовым атэізмам.

Аднак вярнуся да Вільні. Восенню 1939 года нечакана прыйшла вестка, што паміж Расоламі і Вільняй будзе чамусьці... граніца. Чаму – не мог даўмецца ніхто. Бо за Віленкай, па якой пралягла мяжа, у Шумску і Кене, а нават за Вільняй, гаварылі таксама, як і каля Астраўца, – на так званай «крэсовай пальшчызне». А фактычна, як я і сёння чую, на беларускай мове, трасяначна перасыпанай польскімі зваротамі, пераважна далікатнаснымі.

Пасля ўсталявання граніцы амаль цэлы год у Вільню не ездзілі. Туды прабіраліся ляснымі сцежкамі толькі «шпікулянты». Што яны неслі ў Вільню з беднай Беларусі – не ведаю. А адтуль вярталіся з вэнджанымі каўбасамі і сахарынам. Часам перамытнікі спыняліся начаваць у Расолах. І ад іх мы даведаліся, што ў Вільні загадана неадкладна пераходзіць на літоўскую мову. Бацькі на гэта няўцямна круцілі галовамі. Я ж тады ўпершыню адчуў смак сахарыну. І, відаць, перанасыціўся, бо не магу на яго глядзець да гэтага часу.

Потым, з лета 1940-га, зноў можна было ездзіць у Вільню. Але нешта, цяпер ужо не магу даведацца і сказаць, што менавіта, перашкаджала бацьку вось так, як раней, запрэгчы каня і паехаць на рынак. А можа не было ўжо што вазіць. Бо ў хаце з'явіўся новы ядок і адначасова заўзяты працаўнік Альбін Шакель з-пад Браслава, муж маёй сястры Стасі. З прыходам яго, пры Польшчы астравецкага паштальёна, узмацнілася польскасць у хаце. Але хутка і ён асіміляваўся ў вёсцы. Хоць выразны акцэнт застаўся.

Пры немцах мы зноў ездзілі ў Вільню. Але ўжо не фурманкай, а на тэндары паравоза, даўшы машыністу чвірку першаку. Або на платформе, гружанай пяском, якая ставілася ўперадзе паравоза, каб першай узарвацца на партызанскай міне. Таму, сядаючы на платформу, усе жагналіся. Праўда, пра партызан на Астравеччыне, далучанай да гебітс-камісарыята «Літаўэн», загаварылі толькі ў 1943-м і то ў аддаленай ад чыгункі паўночнай частцы, куды з-пад Нарачы даходзіў атрад Маркава. Тут жа, ля чыгункі, асабліва на мастах, у тым ліку ля Сяржантаў на Лошы, стаяла нямецкая ахова. Атрады «Тодт» паспешліва пракладвалі на фронт другую каляю. Для гэтага была патрэбна рабочая сіла. Таму Гудагайскую школу ператварылі ў лагер для палонных. Вечна галодным, ім навакольныя сяляне насілі есці, здаецца, са згоды ахоўнікаў, бо колькі ж накапае зямлі той знясілены. Некаторым удавалася ўцячы. Адзін, помню, хаваўся ў Вішнеўскіх. І нават свой сямейны здымак потым прыслаў.

З паездак у Вільню часоў акупацыі запомнілася адна – на велікдзень 1943 ці 1944 года. Тады выходзіла замуж стрыечная сястра Жэня. Памятаецца, за сталом, у кватэры на Базыльянскай, сядзелі і бацюшка, і ксёндз. Сцішана, у прадпакоі, гаварылі пра савецкіх і польскіх партызан, пра тое, што ў нямецкім шпіталі ў суседніх Базыльянскіх мурах большае раненых. Вунь праз акно відаць, як яны вучацца нанава хадзіць у гародчыку.

Нехта, можа ксёндз, падвёў мяне як вясковага невука да акна і паказаў пальцам на Базыльянскія муры на супрацьлеглым баку гародчыка:

– Глядзі, хлопчык, у гэтых сценах сядзеў у цэлі вялікі польскі паэт Адам Міцкевіч. Чуў пра такога?

– Ведаю. Мы ў Расолах хацелі паставіць дзіцячы канцэрт. Развучылі казку Андэрсена. А я павінен быў дэкламаваць баладу Міцкевіча «Поврут таты». Угаварылі Уладука Грамашэўскага даць нам хату. Але немцы з аховы моста пабачылі афішку, ад рукі пісаную. І забаранілі нам прадстаўленне.

– Там сядзеў не толькі Міцкевіч, але і многа хто з нашых, нашых ліцвінаў – Зан, Чачот, Малеўскі, Дамейка. Усе яны хацелі людзям, люду паспалітаму, дабра. І таму ты, мы ўсе разам павінны іх памятаць.

Пазней, ужо ў час вучобы ва універсітэце, я даведаўся, што ў тых Базыльянскіх мурах, на якія я няўцямна, але ўжо зацікаўлена паглядаў з акна дзядзькавай кватэры, месціліся таксама Віленская беларуская гімназія, Віленскі беларускі музей братоў Луцкевічаў – адным словам, калыска заходнебеларускай свядомасці. Карціны з гэтага музея паказваў потым Караткевічу і мне ў кафедральным саборы, ператвораным у галерэю, яе сторож, былы дырэктар музея Янка Шутовіч, які вярнуўшыся з лагераў і ссылкі, жыў тады ў Вільні з жонкай, літоўскай паэтэсай Онай Міцюце. Пад уплывам мужа яна стала пісаць і беларускія п'есы для дзяцей. Калі Янку Шутовіча пасадзілі за музей, ёй настойліва прапанавалі адрачыся ад мужа, але яна цярпліва яго чакала і дачакалася.



Адам Мальдзіс і Альма Лапінскене (цяпер прэзідэнт Літоўскай асацыяцыі беларусістаў)

Рукапісы, кнігі, перыёдыку з Віленскага беларускага музея мне давялося пабачыць у Цэнтральнай навуковай бібліятэцы Акадэміі навук Літвы, якая месціцца ў былым палацы Тышкевічаў на ўзбярэжжы Віліі, цяпер Нярыс. Гэтыя музейныя матэрыялы шырока выкарыстаны і ў маёй кандыдацкай, і доктарскай дысертацыях, і ў кнігах. Але рукапісы з Віленскага беларускага музея паступова аддаляліся ад мяне: спачатку яго фонд называўся проста і зразумела: «Вільняўс балтарусю фондас» – «Віленскі беларускі фонд». Потым ужо заканспіравана – фонд 21. Усё цяжэй і цяжэй было заказваць старыя віленскія газеты. Іх выдавалі толькі праз чытальню спецфонда і захоўвалі, як мне сказалі супрацоўніцы-беларускі, на паддашку, як нешта непатрэбнае. Калі ж я пажаліўся дырэктару бібліятэкі, тады драўгасу, а пазней понасу Марцінкявічусу, можа якому і далёкаму сваяку нашага Дуніна-Марцінкевіча, ён мяне паклікаў у кабінет і доўга павучаў па-літоўску (тады я ўжо сёе-тое разумеў, бо пачаў, хоць і запознена, штудыяваць мову сваіх продкаў), што я, мяркуючы па прозвішчу, павінен не займацца абы-чым, а шукаць свае карані, літоўскія карані ўсіх беларусаў.

Карані дык карані! Па маёй ініцыятыве наш Інстытут літаратуры стаў тады сябраваць з Інстытутам літоўскай мовы і літаратуры. Ездзілі ўзаемна ў госці – у Мінск і Вільнюс, над Свіцязь і ў Тракай, над Нарач і ў Каўнас. Дзесьці на ўзлеску каля дарогі з Тракая нябожчык Вітаўтас Галініс і я закапалі пустую пляшку з запіскай, што тут у 2000 годзе будзе пабудаваны помнік літоўска-беларускай дружбе. А потым, праз гадоў якіх пяць, зласліўцы ўжо пакеплівалі нада мной, што пад Тракай мы пахавалі і саму беларуска-літоўскую дружбу. Пра тую дружбу мы пачалі з паняй Альмай Лапінскене, дачкой ссыльных, пісаць супольную кнігу. Яна выйшла і па-беларуску, і па-літоўску. Але літоўскі варыянт, замест зблізіць, з-за адной прынцыповай мясціны на некаторы час толькі аддаліў ад мяне і Вільню і Літву. Якая гэта мясціна – раскажу ў наступным раздзеле. Як і пра тое, як я «пагарэў» на ідэі адраджэння Вялікага Княства Літоўскага і як я не стаў класікам «нальшанскай» літаратуры.

Цяпер жа хачу ў канцы гэтай «кладачкі» сказаць вось пра што. Апошні раз я быў у Вільні, цяпер ужо цвёрда і афіцыйна Вільнюсе, вясной 2001 года. Як вы самі разумееце, паехаў не на адкрыццё помніка, хаця ў гэты год віленскія беларусы, за што ім хвала, адкрылі ў горадзе далёка не першую, мемарыяльную дошку нашым класікам. Паехаў афіцыйна, каб падрыхтаваць беларуска-літоўскі «круглы стол» у Рымдзюнах, а гэта ўжо на Астравеччыне. Каб паўдзельнічаць у навуковай канферэнцыі з нагоды дзесяцігоддзя Літоўскай асацыяцыі беларусістаў на чале з той жа паняй, цяпер доктарам філалогіі Альмай Лапінскене. А неафіцыйна – каб прывезці асабісты архіў і асабістыя рэчы вядомага дзеяча беларускай дыяспары ў Аўстраліі Алеся Алехніка. Гэтыя пакеты трапілі морам, бо так танней, у Клайпеду, адтуль – у Вільнюс, дзе і чакалі мяне паводле волі ўладальніка. Цяпер рукапісы Алехніка ўжо апрацаваны і даступны для чытача ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва. Рэчы ж выстаўлены ў экспазіцыі «Беларусы ў свеце» Цэнтра імя Скарыны. А тады, у тую паездку, маючы вольны вечар, пайшоў на Піўную, цяпер Даўкшос. Але на месцы доміка Жукоўскіх ужо стаяла шыкоўная мураванка. Ніхто не чакаў мяне і на Базыльянскай, хаця, зайшоўшы збоку, удалося пабачыць тое акно. Неяк няўцямна стала ў Базыльянскіх мурах, дзе, па майму перакананню, павінен адрадзіцца Віленскі беларускі музей як асяродак літоўска-беларускага добрасуседскага ўзаемадзеяння. Не ўдалося засяродзіцца, як раней, пад Вострай брамай. Яна была нібы свая і ўжо не свая. Можа, таму, што навокал, як і ўсюды, гучала ўжо літоўская мова. Зрэшты, падумалася, чаго ж іншага я хацеў бы?! Так і павінна быць у сталіцы дзяржавы. І ты павінен літоўцам толькі зайздросціць: ім гэта ўдалося. А вось чаму ім удалося, а нам не, хаця і, здавалася б, стагоддзямі развіваліся мы прыкладна ў аднолькавых умовах, патрабуе асобнай гаворкі. У наступным раздзеле.

Тут жа прызнаюся, што з той апошняй паездкі неяк не цягне мяне ў Вільню. Баюся яшчэ большага аддалення, хоць там і з'явіўся ў былым планетарыі рэстаран «Мальджо купалас», гэта значыць «Купал Мальдзіса», з'явілася «Кафэ Мальдзіс». Кажуць, нехта з нашчадкаў астравецкіх Мальдзісаў, зарабіўшы грошы на казахстанскім метале, уклаў грошы. Але нават галодны не пайду туды, каб зноў не нарадзілася зайздрасць. Бо зайздрасць – гэта магутная разбуральная і самаразбуральная стыхія.

У апошнія гады Вільня чамусьці нават не сніцца.

Працяг на стар.10

# Легенды Завосся


Завоссе. Малюнак Напалеона Орды


Свіран, дзе праводзіў летнія вакацыі Адам у студэнцкія гады

Напярэдадні юбілейных угодкаў Адама Міцкевіча была адноўлена гістарычная мясціна – сядзіба Завоссе, дзе паэт прыйшоў на белы свет. Немаўлятка павезлі хрысціць у старадаўні Навагрудскі касцёл, аб чым апавядае сёння памятная дошка. Касцёл гэты вядомы яшчэ адной падзеяй, засведчанай таксама на мармуравай дошцы, – тут адбываўся шлюб 70 гадовага караля Ягайлы з 17-гадовай Соф'яй Гальшанскай. У замку, які займае гару над касцёлам, у 1408 годзе Ягайла і Вітаўт дамаўляліся пра сумесную вайну з Ордэнам крыжакоў, вынікам якой стала перамога ў Грунвальдскай бітве. Крыжацкія паходы на Навагрудак адлюстраваны Міцкевічам у «Конрадзе Валенродзе». Завоссе, таксама ім апетае, належала Міцкевічам па закладзе. Гісторыя не надта доўгага валодання маёнткам (у 1803 Міцкевічы набылі ў Навагрудку пляц і пабудавалі камяніцу) абкружана легендамі. На год нараджэння Адама Завоссем валодаў ягоны дваюрадны дзед Базыль. Ён блізка сябраваў з суседам Янам Сапліцай, абодва славіліся на ўсю Навагрудчыну як забіякі.


Навагрудскі дом Міцкевічаў. Парадны ганак.



У 1799 годзе прыяцелі пасварыліся, і Ян разам са сваімі людзьмі так моцна пабілі Базыля, што той, месяц пахварэўшы, памёр. Бацька Адама праз суд праследаваў Сапліцу, але пакарання яму не дамогся. Вось з якой прычыны імя Сапліцы ўрэзалася ў памяць Міцкевіча з дзяцінства. Самі Міцкевічы мусілі заняць Завоссе праз наезд, бо яго ўладальнікі Яновічы не выконвалі прысуд суда, які перадаваў фальварак Юзэфу Міцкевічу, брату Базыля. Падставай усёй гэтай драматычнай гісторыі была пазыка Яновічам, якую яны не вярталі. Гэтыя старасвецкія міжусобіцы, кепска вырашаныя пры жыцці іх герояў, рамантычна вырашыў паэт у «Пане Тадэвушы». Міцкевіч пісаў паэму ў Парыжы пасля няўдачы паўстання 1831 года і адлюстраваў у ёй усю сваю памяць пра Навагрудчыну, пра ўсіх людзей, якіх ведаў ці пра якіх чуў, і ўсе старадаўнія шляхецкія гісторыі, паданні, звычкі, знайшлі таленавітае ўвасабленне ва ўзнёслых настальгічных радках. Паэма стала бессмяротным помнікам эпохі, якая назаўжды сканала ў 1812 годзе пасля напалеонаўскага нашэсця, вынік якога зацвердзіў на Навагрудчыне расійскую адміністрацыю. Адаму Міцкевічу было тады 13 гадоў – самы ўзрост, каб марыць аб прыгодах і зайздросціць маладзёнам, якіх паклікала на каня ілюзія перамогі. Бальшыня тых, хто пайшоў ва ўланы, дамоў не вярнуўліся. За прамінулы час ад рэальных Сапліцаў не засталося і следу, няма і тых сядзібаў, з якіх збіралася на паляванне, на свае сустрэчы, у наезды мясцовая шляхта, але дзякуючы таленту Міцкевіча яны назаўжды засталіся жывыя у створаным ім свеце Навагрудскага павета. Дзякуючы Міцкевічу ўслаўлены і Туганавічы, дзе жыла каханая паэтам Марыля Верашчака, і навагрудскі цуд – возера Свіцязь у Плунжынскім лесе, і Неман, і пушчанскія бары, і Сталовічы, Валеўка, Гарадзішча, Райцы, Варонча, Мір, і таямнічае Калдычаўскае возера. Захаваліся звесткі аб вандроўках, якія рабілі па навагрудскіх вёсках Адам і Марыля. Лёс у абліччы маці Марылі не дазволіў гэтым закаханым сэрцам стаць пад вянец. Маці Верашчака ведала, што Адама чакае гаротнае залежнае жыццё немаёмнага паэта. Яна не хацела такой долі сваёй дачцы і выказала ўпартасць. Марыля паслухалася яе волі і пражыла жыццё ў дастатку, калі пагадзілася стаць жонкай графа. Адам, жывучы ў Парыжы, залежаў ад выкладчыцкай працы. А вось з кім было Марылі – застаецца неявысветленым. Як і патрэбна для легенды. У вёсцы Калдычава, куды юныя Адам і Марыля хадзілі на возера, у Другую сусветную вайну немцы зрабілі лагер смерці, у якім загінулі 22 тысячы чалавек. Наўрад ці Міцкевіч, калі пісаў пра калдычаўскія хвалі, мог уявіць, што гэтая чароўная мясціна будзе ператворана ў жудасны лагер смерці.



Праз Калдычава паэт шматкроць праязджаў, калі ездзіў з сябрамі філаматамі ў Туганавічы ці ў роднае Завоссе ў часе студэнцкіх вакацыяў. Тут займаў ён другі паверх свірна і, маючы від праз акенца на старую ліпу, пісаў лірыку. Ад тае старой ліпы захаваўся толькі ствол, і маладыя галінкі, як унукі, абкружаюць сведку даўніны. Адноўленая сядзіба пакуль што стаіць пасярод голага поля ля гары Жарновы, тут толькі пачынаюць падрастаць дрэвы, і не кожны дзень сюды завітвае цікаўны. Магчыма ў той адрыне, дзе зараз паказана гаспадарчая частка музейнай калекцыі, было б добра ўсталяваць экран ды паказваць фільмы навагрудскай міцкевічавай тэматыкі. Бо было б тут больш шумлівага жыцця.

Навагрудскі дом Міцкевічаў таксама адноўлены. Удзячная памяць людзей двойчы падымала навагрудскую сядзібу з попелу. Зараз тут створана выдатная экспазіцыя, і можна ўявіць тагачасную атмасферу, у якой жыла немалая сям`я. Міцкевічы мелі пяцёра дзяцей, былі небагатыя, а пасля смерці бацькі малалеткі засталіся на руках маці, і яна нават мусіла здаваць дом у арэнду, жывучы з дзецьмі ў флігелі. Даўнія беды, нядоля, драмы даўно зніклі, а засталіся творы паэта, навагрудская легенда Міцкевіча, якая ўзносіць сэрцы тысяч удзячных людзей.

**Фотарэпартаж Уладзіміра ШЛАПАКА**


Старая ліпа ў Завоссі




Касцёл у Гарадзішчах


Помнік ахвярам нацызму ў Калдычаве


Калдычаўскае возера

Свіран. Такі прыкладна выгляд меў «кабінет» паэта на другім паверсе

Навагрудская фара


Адноўленае Завоссе


Кухня ў Завоссі


Былы парк туганавіцкай сядзібы Верашчакаў

# Кладачка другая

## Як я спрачаўся з літоўцамі, не пераканаў іх, але запаважаў

Працяг. Пачатак на стар. 7

Сваімі каранямі я ўпершыню сур'ёзна зацікавіўся пасля натацый, выдадзеных мне дырэктарам Цэнтральнай навуковай бібліятэкі Акадэміі навук Літвы Понасам Юозасам Марцінкявічусам. У той жа бібліятэцы, а потым у вільнюскіх архівах пачаў шукаць звесткі пра свае Расолы (па-літоўску «расалас» – гэта наш «расол», а «рашалас» – чарніла, вось тут і думай, адкуль што пайшло). Але ніякіх расолскіх дакументаў нідзе не аказалася. Тады пачаў глядзець па імянных паказальніках апублікаваных архіваліяў. Нарэшце ў інвентары маёнтка Бабрўнікі знайшоў свабоднага селяніна Крыштофа Мальдзіса, які ў 1762 г. валодаў у вёсцы Гіры паўвалокай зямлі. Гіры цяпер – у выразна літоўскай, гервяцка-рымдзюнскай анклаве на Астравеччыне. Ці быў той Крыштоф маім прамым продкам – не ведаю, бо генеалагічнае дрэва выстраіць тут немагчыма.

Тады я пайшоў да цёткі Караліны Жукоўскай, якой ужо было 95 гадоў, але яна ўсё памятала. І прама спытаў:

– На якой мове гаварылі ў Расолах вашы дзяды, а мае прадзеды?

– Наколькі іх помню, звычайна гергаталі, па-літоўску значыць. А ў святы або калі хто заязджаў у госці, пераходзілі на польскі.

– А бацькі вашы, мае дзяды?

– Бацька мой, Людвік, значыць, у буднія дні ўжо гаварыў па-простаму. Так тады звалі беларускую гаворку. А ў святы і ён польшчыў, бо польская мова здавалася вышэйшай, панскай. На ёй у Анялінскім, Лашанскім і Дрывяніцкім дварах лапаталі.

– Дык хто ж мы тады?

– Не скажу цвёрда, дзетачка. Усё ў нас змяшалася. Але найперш мы тутэйшыя, бо бацькі нашы па-простаму ўжо гаварылі.

– Беларусы, значыць, бо тутэйшасць, простасць, краёвасць – першы крок да нацыянальнай беларускай свядомасці.

– Можа і так, дзетачка. Гэта калі вучона казаць. Я ж нявучаная. Не было ў бацькоў за што вучыць.

Атрымаўшы такі інфармацыйна-эмацыянальны зарад, я ўжо ўпэўнена трымаўся ў час беларуска-літоўскай «мікравайны», якая разгарэлася на украінскай зямлі ў 1974 годзе, у стогадовы юбілей з дня нараджэння класіка украінскай літаратуры Марка Чарамшыны. Паехаў я туды па просьбе Івана Шамякіна, бо нехта з больш масціты пісьменнікаў па важнай прычыне адмовіўся. У апошнюю хвіліну выпрасіў у Янкі Саламевіча карэктуру яго перакладаў на беларускую мову трох апавяданняў Чарамшыны. І таму кожнае сваё выступленне – у Чарнаўцах, Івана-Франкоўску, Калушы, Кіеве, а выступаў я ўсюды па-беларуску і мяне разумелі, я мог закончыць фразай:

– А цяпер паслухайце, як цудоўна гучыць Марка Чарамшына на нашай, беларускай мове...

Таму мне апладзіравалі больш, чым прадстаўнікам іншых, савецкіх тады, літаратур. У лепшым выпадку яны гаварылі, што дух Чарамшыны, памяць пра яго жыве ў іх рэспубліках. Але ўсе разумелі, што гэта голая дэкларацыя, бо перакладаў не было, яны не гучалі. Асабліва нервавала такая сітуацыя прадстаўніка Літвы, добрага, як потым даведаўся, празаіка-навеліста Уладаса Даўтартаса. Дарэчы, нас увесь час тады блыталі: хто прадстаўляе Літву: Мальдзіс ці Даўтартас? А наша першая сутычка адбылася ўжо на вакзале ў Чарнаўцах:

– Слухай, Адомас, – спытаў ён, – ты мяне што-небудзь чытаў?

– Прызнаюся, не. Чуў толькі.

– Блога, лабай блога...

– Слухай, Уладас, – узлаваўся я, – а ты маё што-небудзь чытаў?

– Не! Адкуль?!

– Таксама дрэнна, вельмі дрэнна.

Потым, пасля салёднай ранішняй пачосткі ў вакзальным рэстаране, Уладас пайшоў у новы наступ:

– Слухай, Адомас, скажу я табе, што вы, беларусы, вялікія свінні.

– Чаму ж так абражаеш нас усіх, Уладас?

– Бо вы адабралі ад нас нашы землі, нашы гарады – Гардзінас, Наўгардукас, Ашмены, Ліду...

– То можа і Мінск Літоўскі, і Брэст Літоўскі, і Палессе Літоўскае заадно? – зласловіў я ў адказ.

– І гэта лепей вам аддаць, далучыцца, значыць. Бо ў адзіным Вялікім Княстве Літоўскім, у нашай дзяржаве яны былі.

– У Вялікім Княстве Літоўскім, Рускім і Жмудскім, – паправіў я. – Так поўная афіцыйная назва гучала.

– Але нашы князі правілі вамі.

– А на якой мове яны правілі спачатку? На мове сваіх жонак, полацкіх і віцебскіх князёўнаў. На мове тагачаснай пісьменнасці, што прыйшла да нас разам з хрысціянствам на гадоў якіх трыста раней, чым да вас.

– І ўсё роўна —аддайце!

– Добра, Уладас, – я адчуў, што бясконцую спрэчку можа спыніць толькі ўдар «пад дых». Так і быць, аддам я табе і Гродна, і Навагрудак, і свой Астравец, тым болей, што за ім, у Гервяцкім краі, сапраўды жывуць карэнныя, этнічныя літоўцы. Аддам, але толькі з адной такой дро-о-обненькай умовай...

– Ну якой жа?

– Пры ўмове, што вы аддадзіце нашу гістарычную Вільню, цэнтр нашай культуры. Русіны там з'явіліся, лічы, адначасова з нальшанцамі, гудамі ці аўкштайцамі. І безумоўна раней, чым жмудзіны.

– Тады вы сапраўды вялікія свінні. І на юбілеі вашага Купалы са мной вы дрэнна абышліся.

Пасля наша спрэчка працягвалася і ў двухмясцовым купэ цягніка Івана-Франкоўск–Кіеў, і ў нумары гасцініцы «Кіеў», дзе лёс ці выпадковасць нас зноў зводзілі разам. Працягвалася калі драматычна (для мяне), а калі і камічна. Ніхто нікога ні ў чым не пераканаў. Але тады я канчаткова зразумеў, што нас у прынцыпе адрознівае ад літоўцаў: яны – наступаюць, а мы ў лепшым выпадку абараняемся. Яны, будучы язычнікамі, абараняючыся ад крыжакоў, не маглі сабе дазволіць на талерантнасць. Мы, даўшы прытулак габрэям, асадзіўшы татараў, стараавераў, мазураў, былі талерантнымі. Этнічна, канфесійна, культурна. Еўропа, еўрапейскія падарожнікі былі здзіўлены нашай цярпімасцю да іншасці, імкненнем яе зразумець, спасцігнуць, узбагаціцца ёю. Тады ў цярпімасці была наша сіла, бо мы былі моцныя ў ВКЛ. Але пазней, калі мы сталі залежнымі, сіла пераварылася ў нашу слабасць, у канфармізм. Веялі вятры з Захаду, ад польскай Кароны, мы, найперш нашы эліты, гонячыся за прывілеямі, схіляліся на Захад. Змяніліся вятры з заходніх на ўсходнія – нашы эліты ў пагоні за кар'ерай сталіся на ўсход, першымі хацелі ўвайсці ў адзіны савецкі народ. А часам бывала, у канцы XVIII стагоддзя, у міжваенныя гады XX, што палова Беларусі кланялася Усходу, а палова – Захаду. Да палітычнага і культурнага падзелу дабаўляўся канфесійны. Калі ты праваслаўны, то абавязкова рускі, калі ты каталік – значыць паляк. А дзе ж тады, як кажа айцец Аляксандр Надсон, кавалачак неба для тых беларусаў?!

У літоўцаў жа такога ўнутранага падзелу не было: спачатку – усе паганцы, цяпер – амаль усе каталікі. Праўда, з XV і да XX ст. быў палітычны падзел: частка продкаў сённяшніх літоўцаў (слова летувіс я свядома не ўжываю, бо гэта, як добра патлумачыў мне віленчук, ужо нябожчык Лявон Луцкевіч, у беларускай мове лексічны нонсенс) жыла ў ВКЛ, а потым у Рэчы Паспалітай, Расійскай імперыі, а частка – у Прусіі. Там нарадзіўся і тварыў аўтар «Чатырох пораў года» Крысціёнас Данелайціс. Там, у больш спрыяльных умовах пачалося ў канцы XIX ст. літоўскае адраджэнне, сталі выходзіць «Аўшра» і «Варпас». І нават беларускамоўнага «Дзядзьку Антона» надрукавалі. Адтуль праз граніцу неслі гэтыя выданні кнігаўношы. У Літвы была свая Прусія, у Украіны – Галіцыя. А ў беларусаў – нічога. Таму і жылі яны так доўга тутэйшымі. Таму і лёгка аддавалі сваё – гістарычныя постаці, кнігі, рукапісы, карціны. Аддавалі, бо часцей нават не ведалі, што гэта іхняе, сваё. Аддавалі нават гарады. Шкада, што тады, у сутычцы з Уладасам Даўтартасам, забыў пра аргумент, пачуты на ўласныя вушы ў літоўскай сталіцы.

Неяк у Вільнюсе праходзіў Дзень беларускай паэзіі. Узначальваў нашу дэлегацыю Максім Танк, чыя маладосць прайшла ў гэтым горадзе. Трапіў у гэтую групу і я, бо займаўся якраз беларуска-літоўскімі сувязямі. З літоўскага боку рэй вёў дзяржаўны дзеяч і паэт Юстас Палецкіс, які ўзначальваў Вярхоўны Савет сваёй краіны ў саракавыя гады. За банкетным сталом у рэстаране «Гінтарас» усе пад канец расчуліліся яднаннем, а Палецкіс раптам сказаў:

– Хочаце, я раскажу вам, як мы абдурылі беларусаў перад вайной, калі яшчэ ўсталёўвалася і ўдакладнялася граніца. Курорт Друскінінкай, па-вашаму Друскенікі, першапачаткова павінен быў адысці да Беларусі. Але нам вельмі хацелася мець гэты курорт. І мы паведамілі Панамарэнку, што там засталося многа польскіх афіцэраў, пілсудчыкаў. «Нашто вам гэтая контра?» – пераконвалі мы. Толькі мучацца з ёю будзеце... Мы лепш вам заменім Друскенікі на кавалак Свянцяншчыны. Там сапраўдны працоўны народ жыве...» І Панамарэнка згадзіўся.

Што праўда, то праўда. У перадваенный нам усходняй частцы Свянцяншчыны – цяпер гэта поўнач майго Астравецкага раёна – сапраўды жывуць працавітыя сяляне. Гавораць па-беларуску чысцей, чым пад Мінскам. І Казімір Сваяк, Янка Быліна, Альбін Стаповіч, Станіслаў Валодзька адтуль. Так што дзякуй Палецкісу за гэты прыгожы азёрны край. Але ж і Друскенік шкада. Там, у Ротніцы, наш Чачот пахаваны. Там беларускіх дзяцей ад радыяцыі болей лячылася б. Не ведаю, ці маглі быць адэкватнымі вось такія абмены на мяжы, накрэсленай пальцам рукі Сталіна ці Рыбентропа.

Мне шкада не толькі Друскенік. Не толькі маладаступных цяпер рукапісаў і кніг з Віленскага беларускага музея. Мне шкада той, выразна беларускай або супольнай часткі спадчыны Вялікага Княства Літоўскага, якую цяпер літоўцы ўпарта лічаць толькі сваёй. А мы яе ахвотна аддаем, лічачы па-старому, што гэта літоўскія князі нас заваявалі, літоўскія феадалы нас прыгняталі. Таму, маўляў, да беларуса, традыцыйнага селяніна-бедняка культура ВКЛ ніякага дачынення, ніякай каштоўнасці не мае. Бо ў беларусаў, прынамсі да кастрычніцкага перавароту, нічога не было акрамя каўтуна ў галаве, лапцяў на нагах. Ну, можа, яшчэ песні і казкі. Можа, яшчэ Скарына. Толькі вось чаму ён, гэты незразумелы адзіночка ў ВКЛ, з'явіўся, – невядома. Можа, я крыху тут утрырую, завастраю. Бо часы ж паволі і няўхільна змяняюцца. Але, прынамсі, такі пункт гледжання задавальняў, задавальняе і яшчэ доўга будзе задавальняць значную частку нашых даследчыкаў і яшчэ большую частку літоўскіх. Бо літоўскія летапісы – толькі іхнія, літоўскія статуты – тым болей, ну і Літоўская метрыка – таксама. Вось толькі муляла і муляе мова, на якой яны напісаны. І таму з'явілася эўфемістычнае вызначэнне: гэта была «канцылярская мова ВКЛ».

З-за гэтага вызначэння, уласна, і пачалося маё, як бы тут далікатней сказаць, супрацьстаянне з разумнай, дасціпнай, але адначасова настойлівай і ўпартай паняй Альмай Лапінскене. У беларускім варыянце нашай супольнай кніжкі «Перазовы сяброўскіх галасоў» яна яшчэ неяк пагадзілася з агульнапрынятым у нас і ў славістычным свеце вызначэннем «старабеларуская кніжная мова». А калі ў Вільнюсе рыхтавалі мы літоўскі варыянт, «Летувю-балтарусю літэратурыняй рышай», – ні ў якую: толькі «канцылярская мова ВКЛ». Спрачаліся цэлы дзень, аж да адпраўлення ў Мінск талінскага цягніка «Чайка».

– Дык што гэта было за штучнае эсперанта?! – не сцярпеў нарэшце я. – На якой этнічнай глебе яно ўзнікла?

Паня Альма нібы пагаджалася. Але калі выйшла кніжка, пабачыў, што ўсё пакінула па-свойму. Нейкі час мы нават не перапісваліся. Але неяк з зайздрасцю падумаў: нам бы такой упартасці!

Пытанне пра характар ВКЛ, а значыць, і пра яго культурную спадчыну хвалявала не толькі мяне. Асабліва калі стварылася Міжнародная асацыяцыя беларусістаў. Памятаецца, у 1993 годзе па ініцыятыве аднаго з яе сузаснавальнікаў прафесара Анджэя Цеханавецкага, нашчадка па кудзелі князёў Мсціслаўскіх і Заслаўскіх і таму, па яго словах, нават патэнцыяльнага прэтэндэнта на беларускі трон, у Лондане сабралася група беларускіх, англійскіх і польскіх гісторыкаў і філолагаў. Прыйшлі нават славуты аўтар «Божага ігрышча» Норман Дэвіс, нехта з князёў Замойскіх.

– Найбольш нас тут, на адлегласці, трывожыць, – пачаў гаворку ініцыятар, – што беларускія і літоўскія навукоўцы, замест таго, каб разам ісці ў Еўропу, ніяк не могуць прымірыцца наконт характару ВКЛ. Ніяк не падзеліце яго. А дзяліць яго і не трэба, і нельга. Гэта супольная гістарычная багацце.

Тады мы вырашылі, што ў характары ВКЛ найперш павінны разабрацца самі беларусы. А то большасць гісторыкаў тады лічыла, што гэта была дзяржава літоўскіх феадалаў, якія заваявалі нас. А шаноўны Мікола Ермаловіч і колькі маладых яго паслядоўнікаў у піку афіцыйнай думцы сцвярджалі, што гэта была выключна беларуская дзяржава, што гэта мы Літву заваявалі. І неяк у гэтай спрэчцы ўсе забывалі, дзеля чаго стваралася тое аб'яднанне – дзеля супольнага змагання супраць агульных ворагаў: крыжакоў, татараў. Дзеля агульных інтарэсаў нашы праваслаўныя продкі пайшлі пад моцную руку князёў-язычнікаў.

Прыкладна так вялася дыскусія за «круглым сталом», які мы наладзілі ў Мінску, у Саюзе беларускіх пісьменнікаў ранняй вясной 1994 г. Сабраліся толькі беларусы і замежныя больш-менш аб'ектыўныя навуковыя арбітры з Англіі, Італіі, Польшчы. У выніковым дакуменце ўдалося пазбегнуць супрацьлегласцяў, крайнасцяў, акрэсліць беларускую пазіцыю, каб потым ужо ўзгадніць яе з літоўцамі, а не сварыцца ў іх прысутнасці. Найбольш лапідарна сфармуляваў агульную думку прафесар з Варшавы Юльюш Бардах. Ён сказаў:

– Я тут не бачу асаблівых праблем. Калі глядзець з Мінска, то княства можна лічыць беларуска-літоўскай дзяржавай, а калі з Вільнюса – то літоўска-беларускай.

З тым і паехалі мы на сустрэчу з літоўцамі ў Гервяты, на Астравецкую зямлю. Сілы сабраліся моцныя: Касцюк, Біч, Пазняк, Шыбека, дасведчаная моладзь. А літоўцы спачатку недаацанілі сустрэчу. Ад іх прыехалі пераважна філолагі, аспіранты. Пачалося ўсё хораша: сімвалічна – з імшы ў касцёле. Прытым ксёндз-беларус адпраўляў яе па-літоўску, а ксёндз-літовец – па-беларуску. Затым паехалі па навакольных літоўскіх вёсках. Сяляне частавалі навукоўцаў сырадоем, гаварылі з імі – у залежнасці ад суразмоўцы і па-літоўску, і па-беларуску, і па-руску, і папольску. На жаль, самі дыскутанты такой лінгвістычнай практыкі амаль не мелі. Таму сышліся на рабочай рускай мове. Логіка гістарычных фактаў прымушала літоўцаў здаваць пазіцыю за пазіцыяй. Устрывожаныя, яны паклікалі вечарам па тэлефоне падмогу з Вільнюса. Назаўтра прыехалі і дырэктары, і акадэмікі. Аднак і з імі беларусам удалося знайсці агульную мову. Было складзена і падпісана канструктыўнае, прымальнае для абодвух бакоў навуковае камюніке. Аднак беларусы яго апублікавалі, а літоўцы – не.

Наступныя нашы сустрэчы былі менш канструктыўнымі. У час «Рыма-V» у Тракаі вільнюская прэса прама пісала, што да культурнай спадчыны ВКЛ беларусы на могуць мець аніякага дачынення. А на апошнім «круглым стале» ў Рымдзюнах, зноў на Астравецкай зямлі, беларусы, па сутнасці, пераконвалі самі сябе, бо з літоўскага боку прыехалі толькі два даследчыкі: адзін вузкі спецыяліст, а другі болей палітык, які паўтараў: княства – толькі наша, і няма болей пра што гаварыць. Нашы, польскія, рускія доказы, што ВКЛ было дзяржавай поліэтнічнай, полiканфесійнай, полікультурнай, і таму яго традыцыі павінны яднаць многія суседнія народы, не траплялі да пераканання нашым апанентам.

І выглядала так, прынамсі вонкава, што перамагалі літоўцы. Дзесьці можна іх нават зразумець: як народ нявялікі, яны павінны былі згуртавацца і выстаяць, каб заваяваць і ўтрымаць сваю незалежнасць. А мы ў параўнанні з імі выглядаем сапраўды вялікай нацыяй, бо пытанні незалежнасці нас не дужа хвалююць. Мы яе не адваёвалі, не выпакутавалі – нам яе паднесла, як кажуць, на талерачцы сама гісторыя. А што лёгка дастаецца, тое не цэніцца.

Літоўцы – цэняць. І ўжо за адно гэта я ўсё больш паважаю іх.

І, тым не меней, пры ўсёй павазе, я адмовіўся стаць класікам цэлай нальшанскай літаратуры. Неяк пазваніў мне з Каўнаса: маўляў, трэба мне, як ураджэнцу Астравеччыны, адраджаць нальшанскую мову, на якой там гаварылі і нават творы друкавалі.

– Добра, – пагадзіўся я, – буду клясыкам, як любіць казаць Караткевіч. Толькі пры ўмове, што вы вышлеце мне хоць адзін нальшанскі твор.

Праз тыдзень атрымаў... вершы свайго земляка Янкі Быліны. Чысцютка беларускія, толькі лацінкай друкаваныя.

Працяг будзе

# Вечная дарога

Георгій ШЭЎМЕР

*

Ці ёсць зямля, якую боль мінуў?
Такую нават у казках не знайсці.
І толькі працы шлях заўжды цягнуў
Воз вечных мар: да лепшага прыйсці.

Радзімы край!
Скуголенне аб долі
Нічога ў ёй не здолее зьмяніць,
І цяжкі шлях, вядомы ўсім да болю,
Прымусіць у самоце спусташыць.

Не горкі стогн зямля ад нас чакае.
Яна пачуць жадае над сабой
Любові песні, што аб ёй спяваюць,
Прыгожай, непаўторнай, дарагой.

Яна, як любая, заўжды пазнаць жадае
Ці моцнае каханне да яе
У тых, хто па-над ёю лёс свой мае,
І ад яе крыніц вадзіцу п'е.

І як жанчына родная – квітнее,
Калі цяплынь убачыць у вачах
І працу тую, ад якой цішэе
Бядоты горач на яе шляхах.

*

Ляцеў над полем конь буланы
І нёс на ўспененай спіне
Ганца, якога і чакалі
І сцерагліся ў даўніне.

Сустрэўшы вёскі ці сядзібы,
Галоп ён крыху прыпыняў
І ўсе будзённыя турботы
Адзіным словам парушаў.

«ПАГОНЯ!» – быццам вецер грозны
Ляцела слова за спіной
Таго ганца, што з дзён Міндоўга
Склікаў усю зямлю на бой.

Ўсе тыя, хто жылі ў прасторах,
Якімі вершнік пралятаў,
Выдатна ведалі, што трэба
Рабіць, дзе б кліч іх ні спаткаў:

Харугвы мусілі збірацца
Да месц, вядомых ваярам,
Палкі ў пагоню адпраўляцца
Услед няпрошаным гасцям.

Ў атаку вершнікі ляцелі
На распалёных скакунах
І шаблі срэбрам зіхацелі
Над галавамі ў руках.

І гэты кліч, што жыў з народам,
Яму стаў сімвалам зямлі,
Ўсіх тых людзей, якія разам
На бітву жорсткую ішлі...

...Наш даўні вершнік Наваградскі,
Прамчаўшыся праз сотні год,
Заўжды адно жаданне мае:
Край зберагчы ад бур-нягод.

А плашч
Георгіеўскі слаўны,
Што на ім віхар разарваў,
Патомкам, ўзнятым над зямлёю,
Яе між іншых вылучаў.

### Паданне вякоў

Жаркіх ночак чароды ляцелі
За вяселлем, што толькі прайшло,
І дзявочыя вочы гарэлі:
Спадзяванні каханне знайшло.

Напаўняўся сцяпенствам хлапчына,
Калі стаў ўжо не проста кахаць,
А назваў сваёй жонкай дзяўчыну,
Што змагла яго сэрца забраць.

І напіцца яшчэ не паспеўшы
Ад кахання свайго ручаёў

Маладыя не бачылі хмараў,
Што прыйшлі з невядомых краёў.

Але хутка настала гадзіна
Да пахода харугвы збіраць
І адна засталася жанчына
Свайго любага з бою чакаць...

У сечы жорсткай варожая сіла
Змагла хлопца навылет праняць,
А далей яе ўжо не хапіла,
Каб зямлю рабаваць і знішчаць...

Праліла слёз не мала жанчына
У чароды гаротных начэй,
Але здолела ўзняць свайго сына,
Што ў бацькі ўзяў колер вачэй.

А яшчэ ўзяў жаданне да волі,
Да кахання й гарачых начэй...
І гатоўнасць да бацькавай долі
У жыцці, што ляцела далей...

...Гэты холад, для сэрца балючы,
Што праняў вось і тую любоў,
Быў заўжды, як прыходзілі хмары,
Перайшоўшы ў паданне вякоў.

Кожны раз палягалі мужчыны,
Каб зямлю ў баі адстаяць,
І заўжды гадавалі жанчыны
Тых, хто край будзе зноў зберагаць...

### Зубр

На паляну ў ранішняй пушчы,
Калі толькі заранка ўзышла,
З непралазнае, цёмнае гушчы
Звера дзікага постаць ўвайшла.

Агледзеўшыся позіркам цяжкім,
Ноч яшчэ не здалася зусім,
Галавой матануў ён зацята,
Быццам ставячы крыж на былым.

Быццам цемру жадаючы скінуць,
Што яшчэ прад вачыма была,
Ён збіраўся з рашучасцю зрынуць
Буралом з бідавочнага зла.

Каб галлё перашкодай не стала
Сакавітыя травы шукаць
Дужы зубр быў гатовы нямала
Намаганняў і сілы аддаць...

Гэткіх думак чароды ўзнікаюць,
Калі часам, як сон на вачах,
Гэты звер уладарна ступае
Па сваіх векавечных барах.

*

Нейкае прамніста-залатое,
Быццам колер спелых каласоў,
Уздымала сонца маладое
Покрыва з наступнага між днёў.

Не паспела разгубіць па ранню,
Па яшчэ ачмуранай зямлі,
Прамянёў сваіх яно каханне:
З іх пакуль нямногія ўзышлі.

Толькі пачалося прабуджэнне.
І аднак жа водарам сваім
Яркая заранка апранула
Свет вакол мігценнем залатым.

Пацяклі праз вузкае акенца,
Ўсё шырэйшым робячы яго,
На зямлю
Жаданні змен і сэнсу,
А яшчэ – спагады на раллю...

Ўсё бярэ пачатак ад малога,
Як у свеце нашым кожны дзень,
Ўсё стварае чутае дзесь слова
Ці ў вачах – тугі гаркотны цень.

# Янка Зімніцкі

Арсень Ліс

Ужо некалькі гадоў неяк досыць часта прыходзяць на памяць вясковыя дзяды майго маленства. Праз добрага паўвека раптам, нібы нядаўна ўгледжаныя, бачацца іх самавітыя постаці, няспешная хада, чуецца знаёмы тэмбар голасу.

Яшчэ ў мае юначыя гады яны непрыкметна адзін за адным сышлі з жыцця. Прыязджаючы з вучобы ў Мінску, час ад часу чуў ад маці, маўляў, не стала таго ці іншага старога земляка. Янка Зімніцкі, высокі, тонкіх рыс аблічча стары, апрануты звычайна ў даматканую з воўны світку, нагавіцы-дудачкі, пашытыя з рэбніны, адышоў на той свет у перадзім`і. Увосень крыў некаму страху, празябіўся і ўжо, казалі, не ўстаў з ложку.

Праз гады я даведаўся пра яго нешта такое, што вылучыла дзеда сярод іншых, агарнула душу смуткам асобнай страты, якой аднак нельга было запабегчы. Не быў я яшчэ на той час адукаваным філолагам, свядомым сваёй будучай прафесіі адмыслоўцам. Панёс Янка Зімніцкі на той свет незваротна ў думнай сваёй галаве, узвышаным сэрцы цэлы скарб.

Жыў Зімніцкі са сваёй Барбаркай (так звалі яго жонку ўсе суседзі і знаёмыя) пад самы канец вуліцы, жыў самотна. Не было ў іх з Барбаркай дзяцей, натуральна, і ўнукаў, і мне ніколі не давялося пераступіць парогу іхняй хаты. Хоць паўз яе хадзілася часта: у іхніх сусезяў Чарняўскіх, Ігната і Мар`і, было шмат дзяцей, і мы ў нядзелю збіраліся там на сяло. Вокны хаты Зімніцкіх праз маленечкі, метры на два шырынёю, гароднык, у якім да позняй восені красавалі бледна-ружовыя мальвы,глядзелі на вуліцу заўсёды ціхмяна. Падвор`е ўздоўж хаты, арыентаванай ганкам на ўсход, было вузкае. У глыбіні яго бачылася студня-жураўель, далей – вароты невялікага гуменца. На гумнішчы, бліжэй да агароджы, было відно пару старых яблынь.

***

Аднойчы Янка Зімніцкі прыйшоў да нас у хату і нечакана звярнуўся непасрэдна да мяне: «Хлопча, як там цябе зваць, маю да цябе клопат. Зрабі ты мне надпіс на хату», – і працягнуў невялічкую памерам гладка выгабленую дошчачку. – «Калі ласка». Я ад нечаканасці развёў рукамі: не было ў мяне адпаведных заказу фарбаў, пра што і сказаў просьбіту. «А ты развядзі ў кубачку сажы, і будзе файна», – адказаў мне на гэта дзед Янка. Я так і зрабіў. Затым, стараючыся як мог, вывеў чорным па белым «Янка Зімніцкі». «Па-беларуску, а не па-рускy?» – паглядзеў на мяне дзед з ваганнем у голасе. «Палякі ж патрабавалі, каб рабілі такія надпісы па-іхняму». «Цяпер жа мы не пад Польшчай», – гарачавата сказаў я дзеду, гатовы прачытаць яму цэлую лекцыю з навейшай гісторыі. А як жа, я ужо быў перайшоўшы ў дзесяты клас смаргонскай школы. «Добра, добра», – заспяшаўся дзед Зімніцкі, дзякуючы за шыльдачку. Я затрымаў яго на хвіліну пытаннем, чаму менавіта да мяне звярнуўся ён з просьбай аб надпісе, шыльдачы. «А твой дзядзька Іван рабіў нам тут некалі такія надпісы, дык падумалася, і ты патрапіш».

Дзядзька Іван, самы старэйшы бацькаў брат, яшчэ да маіх нарадзінаў, у пачатку 1930-х гадоў, пасля трохгадовага мадзення ў польскай турме ў Вільні ды паражэння ў правах, хаця-нехаця мусіў сысці ў Савецкую Расею. Некалькі згадак пра яго пачуў я ад родных. З гадамі, займаючыся ў архівах, калі ўдалося дабрацца да дакументаў, справў Віленскага акругоўага суда польскіх часоў, краем вока заглянуць у архіў Камітэта дзяржбяспекі ўжо не БССР, а Рэспублікі Беларусь, даведаўся пра дзядзьку Івана болей. Але гэта асобны чалавечы лёс, асобны сюжэт.

Дзядулю Янку Зімніцкага пасля яго прыходу з просьбай напісаць шыльдачку на хату сустрэць больш не давялося. Налета я паступіў вучыцца ў Мінск, а неўзабаве пачуў, што яго ўжо няма.

Прайшло шмат часу, і аднойчы, гутарачы са



старэйшым земляком, трывалым і ў пажылым веку дзядзькам Хведарам, пачуў, што Янка Зімніцкі быў не толькі знаны на ўсю ваколіцу страхар, але і светны знаўца-перахоўнік беларускага эпасу. «Калісь на начлезе, – сярод гутаркі не памятаю ўжо у якой сувязі ўспомніў дзядзька Хведар, – цэлую ноч бывала пры вогнішчы слухалі казкі Янкі Зімніцкага. У нашай сям`і расло чатырох хлапцоў. Падмяняліся па чарзе: адну ноч пасціць каня едзе Паўлюк, другую – Валодзя... Зрэдку выбіраўся і сам бацька – меў ахвоту. Я тады ўжо браўся пад дзецюка, і мне было цікава пабыць каля старэйшых, пачуць, пераняць нешта новае. Неяк выпала тры начы запар ехаць на начлег, на другую, трэцюю ноч з вечара думаю сабе: дзед Янка ізноў успомніць, раскажа пра Рымшу, кемлівага, хвацкага дзецюка. Ажно не, у яго ўсё новыя і новыя людзі прыходзяць на памяць. І ўсе, як жывыя. І паны, і каралі, і наш брат, селянін-аратай, і каваль, і цесля. І жанкі, і дзяўчаты, – цэлы свет розных людзей. Акром таго, здавалася б дзяцінная забаўка – казкі пра жывёлін розных, птахаў ды гадаў. А ў Зімніцкага, на цяперашні розум падумаўшы, дык мудра, павучальна было. Усякае боскае тварэнне ў яго, па-чалавечы размаўляючы, праўду кажа ці хлусіць, але так выяўляе натуру, што бачыш, чуеш тое. Завяршаў жа сваё казанне Зімніцкі часта вузлавата, прыказкай. Да прыкладу, казаў у канцы байкі: «Падманам свет пройдзеш, але назад не вернешся...» Гэткае запаміналася.

***

Ужо спакушаны навуковым народазнаўствам, фалькларыстыкай, маючы сякую-такую практыку збору-запісу памятак народнага духу, я не без скрухі думаў: вось собіла размінуцца ў часе з незвычайным земляком-казачнікам. Трэба ж было на добрага паўвека спазніцца да тых начлежных вогнішчаў, дзе цудадзеіў словам Янка Зімніцкі. Адно заставалася папрасіць дзядзьку Хведара падрабязней расказаць пра тыя начлежныя ночы яго маладосці.

«Вы ўжо не засталі, адышоў звычай, – мройліва ўспомнілася дзядзьку Хведару. – А тады, толькі скончылася тая першая яшчэ, вялікая вайна (далася яна ў знакі тут людзям: аж тры гады фронт стаяў пад Смургонямі, бежанства, потым чарадой ішлі змены ўлады, то немцы, то бальшавікі, то палякі), затым ці надоўга пацішэла. Селянін узяўся за плуг, сяўню. А конь першы памочнік у гаспадарцы. Вывеўся звычай, – казаў далей дзядзька Хведар. – У сталыя мае гады ўжо ніхто не вадзіў коней на начлег. А тады, уперад, толькі надходзіць шэрая гадзіна – падхопіш уздзечку ды гайда. Трэба было натомленага за дзень працы каня добра напасціць, даць яму адпачыць ад плуга ды бараны. Вётхавічане выбіраліся на начлег пад Каралевіцу. Там зямля яшчэ не была прададзена, лічылася скарбовай. Воддаль стаяў лес, а перад ім рассцілалася шырокая паляна, лазняк, хмызнякі. На самым ускрайку расло некалькі старых дубоў. Мы пускалі хадзіць пaпутаных коней, а самі борздзенька раскладалі агонь пад вялікім разгалістым дубам. Спутаныя коні далёка не ідуць ноччу. Трымаюцца вогнішча, чалавека, асцерагаючыся ваўкоў. Толькі збольшага, зрэдзь часу прыглядаем, бывала, за імі.

Начлежнікі, хто дрэме пад самым дубам, загарнуўшыся ў марынарку, паклаўшы аброць пад галаву. Большасць жа хлопцаў, падлеткаў ды дзе хто з мужчын перагаворваецца сціху, прымасціўшыся лежма на баку вакол вогнішча. Глядзім, каб не звёўся агонь. Час ад часу нехта падымецца, сходзіць прывалачэ бярэма карчоў або сухога хмызу. А ўжо ў тую ноч, калі на начлезе быў дзядзька Янка Зімніцкі, мы бліжэй падсядалі да яго, хоць голас меў няціхі, ды і не надта гучны. Тады, бывала, да свету не заплюшчыш вачэй, хоць на паўгадзінкі.

...Вось ужо дзе хто баяў дык баяў. Як даўней казалі, усё, што расказваў-пераказваў, на валовай скуры не спішаш. Каб, як цяперашнім часам, хто ўзяўся, запісаў тое баянне ды ў кніжку падаў. Пэўна вялікая б кніжка атрымалася».

Вось і ўсё пра казачніка-байкара Янку Зімніцкага, вётхаўскага чалавека з залескай ваколіцы, дзе вечную музыку тварыў Міхась Клеафас Агінскі. А хто сёння ўспомніць, што непадалёк з ім жыў, нарадзіўшыся яшчэ ў прыгоне, складаў і пераказваў беларускі казкавы эпас, нашчадак парабкаў слыннага музыкі і палітычна-грамадскага дзеяча земляроб, страхар, эпік Янка Зімніцкі. Крыж на яго магіле даўно збуцвеў і зваліўся, ды і сама яна, глядзі што, зраўнялася з зямлёю. Не тое, што капліца Санта Крочэ з прахам Агінскага ў далёкай ад Залесся Фларэнцыі. А між тым абодва яны былі творцамі, абранцамі Бога.

# Візітныя карткі будынкаў

Цяжка ўявіць сабе помнік архітэктуры без такіх элементаў, як дзверы, вокны, балконы, ветранікі, дымнікі і г.д. І калі магутныя мураваныя сцены палацаў і замкаў, храмаў і ратуш у большасці выпадкаў захавалі гэтыя дэталі ў першасным выглядзе, то драўляныя фасады і інтэр'еры часта знікалі ў выніку пажараў і перабак. Таму ў гэтым артыкуле мы хочам расказаць аб некаторых архітэктурных дэталях, без якіх цяжка ўявіць сабе архітэктурны помнік.

Пачнём з дзвярэй. Яны павінны былі адпавядаць шматлікім патрабаванням: не пускаць у жылое памяшканне зімовую сцюжу і халодны восеньскі вецер, надзейна ахоўваць маёмасць гаспадара ад рабаўнікоў, паказваць веліч палаца або храма, быць надзейнай абаронай ад ворагаў.

Уявіць памеры і вонкавы выгляд дзвярэй у дамах простых гараджан у XII–XVI стст. дапамагаюць археалагічныя раскопкі. Яны сведчаць, што ў дамах старажытнага Менска дзверы мелі невялікія памеры (іх вышыня дасягала ўсяго 1–1,2 м), знаходзіліся блізка ад столі і адчыняліся ўсярэдзіну памяшкання. Палотны дзвярэй, знойдзеныя падчас раскопак у Віцебску, сабраны з дзвюх альбо трох тоўстых дошак, замацаваных драўлянымі планкамі. Планкі ішлі альбо паралельна адна другой, альбо наўскос. Ніякага аздаблення дзверы не мелі і выконвалі звычайную утылітарную функцыю.

У XV–XVI стст. драўляныя дзверы замкавых, царкоўных і касцёльных брамаў даволі часта абівалі палосамі каваных жалезных лістоў. Пры гэтым некаторыя дзверы аздабляліся раслінным ці геаметрычным каваным фрагментам, зробленым з металічных палос і дроту. Да нашых часоў дайшлі малюнкі каваных дзвярэй Дабравешчанскай царквы XVI ст. Супрасльскага манастыра. Значна адрозніваюцца ад дзвярэй часоў готыкі дзверы палацаў, храмаў эпохі барока і ракако. Самыя раннія з вядомых нам дзвярэй гэтага тыпу належаць да XVII–XVIII стст. Уражваюць сваёй прыгажосцю разныя дзверы ў в. Крамяніца Гродзенскай вобласці (першая палова XVII ст.). Яны складаюцца з двух вялікіх драўляных палотнаў, устаўленых у мураваны дзвярны праём і завершаных паўцыркульнай аркай. Ніжнія часткі абодвух палотнаў аздоблены шыкоўнай разьбой у стылі чатырохчленнай сіметрыі. Такі арнамент, напрыклад, быў шырока распаўсюджаны ў беларускім кафлярстве ў першай палове XVII ст. Падобныя дзверы можна ўбачыць і ў Глыбоцкім касцёле.

Вялікую цікавасць уяўляе здымак дзвярэй XVII ст., зроблены ў Магілёве ў канцы 40-х гадоў мінулага стагоддзя. На ім адлюстраваны аднастворкавыя драўляныя дзверы, аздобленыя зверху і знізу. У верхняй частцы знаходзіцца выява аднагаловага арла, магчыма, запазычанага з герба Рэчы Паспалітай (у склад якой тады ўваходзіў Магілёў), а ў ніжняй – найбольш цікавай – малюнак вазона, матыву, вельмі характэрнага для розных жанраў беларускага мастацтва: кнігадрукавання, кафлярства, разьбы па дрэве, ткацтва. Несумненна, што гэтыя дзверы вялі ў дом заможнага магілёўскага купца або рамесніка.

Вонкавыя дзверы многіх палацаў і храмаў у XVII–XVIII стст. акрамя разных упрыгожанняў маюць шматлікія металічныя аздобы. Найбольш пашыраны ў той час былі каваныя дэкаратыўныя цвікі, плешкі якіх зроблены ў выглядзе разнастайных разетак. Гэтыя цвікі ў вялікай колькасці забіваліся ў палотны дзвярэй, плешкі іх стваралі разнастайныя ўзоры, а канцы загіналіся на супрацьлеглай частцы дзвярнога палатна, тым самым значна павялічваючы яго трываласць.

Металічныя каваныя завесы ў гэты час пастурова замянілі старадаўні спосаб навешвання дзвярэй на калаўроце. Канцы завесаў фігурна раскоўвалі і надавалі ім абрысы лісцяў, ромбаў альбо выгіналі ў выглядзе лацінскай літары S. Часам палотнішчы завесаў упрыгожвалі – чаканкай наносілі геаметрычны арнамент.

У культавых пабудовах і багатых палацах вонкавыя дзверы мелі вялікія спружынныя замкі, якія замыкаліся каванымі ключамі. Вушкі такіх замкоў аздабляліся дэкаратыўньмі накладкамі, прычым найбольш распаўсюджанымі былі розныя варыянты сэрцападобнай формы. Адзін такі замок знойдзены намі падчас раскопак Заслаўскага замка ў 1979 г. і датуецца першай паловай XVII ст. Падчас раскопак Крэўскага замка пашанцавала знайсці цэлую звязку ключоў (13 штук) гэта ж часу.

На рубяжы XIX–XX стст. амаль усе дзверы ў горадзе і вёсцы ўпрыгожвалі фігурныя каваныя дзвярныя клямкі. Клямкі такога тыпу выкарыстоўваюцца і сёння.

У старых кварталах многіх беларускіх гарадоў захавалася шмат філёнгавых драўляных дзвярэй XIX – пачатку XX ст. Іх разнастайнае аздабленне ў тагачасных стылях – класіцызму, эклектыкі і мадэрна – сёння можа быць прадметам спецыяльнага вывучэння, асабліва падчас рэстаўрацыі старой гарадской забудовы.

Калі бываеш у старажытных гарадах, асабліва ў іх гістарычных цэнтрах, нельга не звярнуць увагу на вырабы кавалёў і ліцейшчыкаў XVIII – пачатку XX ст. Трэба толькі прыглядзецца да старых будынкаў і ўбачыш, як зіхацяць кроплі дажджу на вострых дзідах агароджы часоў класіцызму паміж дамамі № 11 і 13, што па вуліцы Ленінскай у Магілёве, як звісаюць над ганкам гронкі дзікага вінаграду літых капітэляў будынка на плошчы Горкага ў Мазыры, заўважыш мудрагелістыя выкрунтасы лёгкага дымку, што ўецца сонечным зімовым ранкам праз каваны дымнік на коміне жылога будынка па вуліцы Пралетарскай у тым жа горадзе.

Кожны вандроўнік XVI–XVIII стст., які падыходзіў да гарадской брамы, здалёк бачыў на вежах замкаў і бажніц, на званіцах і стромкім ратушным даху шматлікія флюгеры, якія альбо зіхацелі на сонцы срэбрам і пазалотай, альбо вылучаліся стромкімі абрысамі на фоне аблокаў і хмар. Нездарма нашы продкі называлі іх ветранікамі, бо многія флюгеры круціліся вакол сваёй восі і паказвалі кірунак ветру. Якіх толькі выяў і сімвалаў не было на старадаўніх ветраніках! Гэта і герб магната на замкавых вежах Любчанскага замка, і анёл з трубой на вежы Гродзенскага фарнага касцёла, і сцяжкі рознай формы з датамі будаўніцтва на вясковых капліччках, царкоўных брамах, жылых і гаспадарчых будынках.

Захаваліся шматлікія апісанні магілёўскіх ветранікаў XVII ст. Так, Трыумфальную гарадскую браму, збудаваную ў 1660 годзе над берагам ракі Дубровенкі, аздабляў складаны трох'ярусны флюгер у выглядзе пазалочанай лятучай «Пагоні» – герба Вялікага Княства Літоўскага, сцяжка і пазалочанай зоркі на самым версе.

Ратушу ў мястэчку Смаляны пад Воршай у XVIII ст. таксама аздабляў ветранік з дзяржаўным гербам «Пагоняй» – «медяной, позолоченной малярским золотом».

А балконы! Каваныя альбо літыя чыгунныя самых розных архітэктурных стыляў – барока, ракако, класіцызму, неаготыкі, мадэрна, канструктывізму. Засаджаныя кветкамі, зарослыя дзікім вінаградам, прывабліваюць яны вока падарожніка, што крочыць па старажытнай брукоўцы. Толькі ў Гродне можна налічыць больш як 30 тыпаў розных балконаў і кранштэйнаў для паддашкаў над уваходамі ў будынкі. А колькі іх у Пінску, Слоніме, Гомелі, Менску, Магілёве, Віцебску! У спалучэнні з тагачаснымі аконнымі рамамі, філёнгавымі дзвярыма, каванымі ручкамі і аконнымі кратамі гэтыя элементы архітэктурнага дэкору надаюць непаўторны каларыт гораду. Каларыт гэты нельга губляць, бо разам з ім знікне і твар горада. Таму вельмі важна падчас шматлікіх капітальных рамонтаў захоўваць старыя дзверы і балконы, рамы і агароджы, не даць загінуць своеасаблівым «візітным карткам» старых пакояў і будынкаў.

**Алег ТРУСАЎ,**
**кандыдат гістарычных навук**















# Казкі пра вайну супраць тэрарызму

**Майкл МІЧЭР**
**член брытанскага парламента, у 1997–2003 міністр эканомікі Вялікабрытаніі**

Нам вядома пра існаванне праекта па стварэнні на сусветным узроўні так званага *pax americana*, у якім прымаюць удзел віцэ-прэзідэнт Дзік Чэйні, міністр абароны Дональд Рамсфельд, яго намеснік Пол Вулфовіц, малодшы брат Джорджа Буша – Джэб Буш і кіраўнік апарата віцэ-прэзідэнта Л'юіс Лібі. Дакумент з назвай *«Rebuilding America's Defences»* («Рэканструкцыя абароннай палітыкі ЗША») быў напісаны яшчэ ў верасні 2000 года групай неакансерватараў, якія ўваходзяць у *Project for the New American Century* (PNAC).

Згодна з выкладзеным у гэтым дакуменце планам урада Буша, Вашынгтон збіраўся ваенным шляхам усталяваць кантроль над усёй тэрыторыяй Персідскай затокі незалежна ад таго, будзе на той момант Садам Хусейн знаходзіцца пры ўладзе ці не.

Праект PNAC надае яшчэ болей сэнсу створанаму раней дакументу, аўтарства якога прыпісваецца Вулфавіцу і Лібі. У прыватнасці, у ім сцвярджалася, што ЗША «павінны зрабіць усё магчымае, каб пераканаць у адваротным высокаразвітыя краіны, якія імкнуцца паставіць пад сумнеў нашу перавагу і нават іграць больш значную ролю на сусветнай арэне ці ў пэўных рэгіёнах». У дакуменце фігуруюць імёны ключавых хаўруснікаў, такія як Вялікабрытанія – «найболш эфектыўнага і аператыўнага інструмента для забеспячэння панавання ЗША ўва ўсім свеце».

У дачыненні міратворчых місіяў у дакуменце адзначаецца, што яны «найперш павінны знаходзіцца пад палітычным кіраўніцтвам ЗША, а не ААН». І далей: «нават пасля магчымага знікнення Садама з міжнароднай арэны», ваенныя базы ЗША ў Саудаўскай Аравіі і Кувейце пастаянны застаюцца там пастаянна ў сувязі з тым, што «Іран цалкам магчыма будзе ўяўляць такую ж пагрозу інтарэсам ЗША, якую да таго ўяўляў Ірак».

Адзін з параграфаў згаданага дакумента прысвечаны стварэнню «касмічных узброеных сіл ЗША» з мэтай усталявання амерыканскага панавання ў космасе і атрымання поўнага кантролю над інтэрнэт-прасторай, якую «ворагі» маглі б скарыстаць супраць ЗША.

Напрыканцы дакумента (нагадаем, што ён быў напісаны да падзеяў 11 верасня) Паўночная Карэя, Сірыя і Іран называюцца небяспечнымі рэжымамі, існаванне якіх апраўдвае стварэнне «на міжнародным узроўні сістэмы назірання і кантролю за імі». Размова ідзе аб сапраўдным праекце ўстанаўлення панавання Злучаных Штатаў над усім светам. Тым не менш, раней чым яго пакладуць пад сукно з той падставы, што гэта ўсяго толькі праграма ўрада, складзенага з летуценнікаў правых поглядаў, варта растлумачыць наступнае. Гэты дакумент дае больш зразумелае, чым тэза аб сусветнай барацьбе з тэрарызмам, тлумачэнне ўсім падзеям, што адбываліся да, у часе і пасля 11 верасня 2001 года. Ёсць багата пацверджанняў.

У першую чаргу трэба сказаць, што амерыканскія ўлады не зрабілі нічога ці зрабілі вельмі мала, каб папярэдзіць падзеі 11 верасня. Планы аб нападзенні на значныя аб'екты ў Вашынгтоне існавалі яшчэ з 1996 года. Пазней, у 1999 годзе, Нацыянальны разведвальны савет ЗША апублікаваў дакумент, у якім адзначалася, што «тэрарысты-самазабойцы з Аль-Каіды маглі б скіраваць начынены вялікай колькасцю ўзрыўчаткі самалёт на Пентагон, штаб-кватэру ЦРУ ці Белы Дом».

Улады не ўдзялілі ніякай увагі ніводнаму з атрыманых імі яшчэ да 11 верасня папярэджанняў. Навучэнец школы аэранаўтыкі француз мараканскага паходжання Захарыя Мусауі быў арыштаваны ў жніўні 2001 года, пасля таго, як стаў выказваць падазроную цікаўнасць да кіравання вялікімі пасажырскімі самалётамі. Агенты французскіх спецслужбаў паведамілі ФБР, што гэты Мусауі падтрымліваў цесныя сувязі з радыкальнымі ісламістамі, пасля чаго агенты амерыканскіх спецслужбаў патрабавалі выдаць ім ордэр на работу з камп'ютэрам мараканца, у якім захоўваліся ключавыя дэталі аперацыі 11 верасня («Times», 3 лістапада 2001 года). Тым не менш кіраўніцтва ФБР адмовіла ім у выдачы ордэра. Па звестках «Newsweek» ад 20 траўня 2002 года, адзін з супрацоўнікаў амерыканскай разведкі яшчэ за месяц да 11 верасня напісаў, што Мусауі магчыма рыхтуецца захапіць самалёт і накіраваць яго на вежы.

Улічваючы ўсё згаданае і не забываючыся на вайну супраць тэрарызму, здаецца дзіўным, наколькі запаволенай была рэакцыя на падзеі, якія разгортваліся 11 верасня. Першыя звесткі аб тым, што захоплены самалёт, з'явіліся не пазней 8.20 раніцы, апошні з гэтых самалётаў быў збіты ў Пенсільваніі ў 10.06. За гэд узняцца ў паветра для высвятлення дэталяў таго, што адбывалася, знішчальнікі на ваенна-паветранай базе Эндрус, якая знаходзіцца за 16 кіламетраў ад Вашынгтона, атрымалі толькі пасля таго, як трэці самалёт урэзаўся ў 9.38 у Пентагон.



Пакідае жадаць лепшага рэакцыя Злучаных Штатаў і пасля катастрофы. Не было зроблена ні адзінай сур'ёзнай спробы злавіць бен Ладэна. Напрыканцы верасня – пачатку кастрычніка 2001 года кіраўнікі дзвюх пакістанскіх ісламскіх партый вялі перамовы аб экстрадыцыі бен Ладэна, які мог стаць перад судом за арганізацыю тэракта 11 верасня. Аднак адзін з чальцоў амерыканскага ўрада – таксама вельмі дзіўная дэталь – заявіў, што «скіраванне ўвагі на выразшэнне не надта амбіцыйных задачаў» можа прывесці «да дачаснага аслаблення намаганняў, якія праводзяцца на сусветным узроўні, калі бен Ладэн выпадкова будзе схоплены».

Названы вышэй пералік фактаў, якія не знаходзяць тлумачэння, робіцца зразумелы, калі ўзгадаць аб праекце PNAC. Зыходзячы з гэтага пункту, можна адназначна сцвярджаць, што так званая «вайна супраць тэрарызму» – не болей, чым штучна створаная падстава для дасягнення куды больш буйнамаштабных геапалітычных і стратэгічных мэтаў Злучаных Штатаў. На самой справе падзеі 11 верасня, як на падносе, паднеслі амерыканскай адміністрацыі пераканаўчую зачэпку для пачатку здзяйснення праекта PNAC. Самым відочным доказам гэтага з'яўляецца факт, што планы аб ваеннай інтэрвенцыі на тэрыторыю Афганістана і Ірака існавалі яшчэ да 11 верасня.

Маюцца падобныя доказы і ў адносінах Афганістана. 18 верасня 2001 года агенцтва BBC паведаміла, што былы міністр замежных справаў Пакістана Нііяз Нііяк у сярэдзіне ліпеня 2001 года ў Берліне быў паінфармаваны высокапастаўленымі амерыканскімі палітыкамі аб тым, што «ў сярэдзіне кастрычніка пачнецца ваенная аперацыя супраць Афганістана».

Таму няма нічога дзіўнага, што бяссілле Злучаных Штатаў у папярэджанні нападаў 11 верасня было ўспрынята як выдатная падстава нападу на Афганістан, хоць гэтая вайна, без сумневу, была старанна спланаваная раней. У амерыканскай гісторыі былі ўжо прэцэдэнты дасягненняў пастаўленых мэтаў падобным чынам. Да такога ж сродку звярнуўся і прэзідэнт Рузвельт, якому было вядома, што японцы рыхтуюцца да атакі на Перл-Харбар, аднак гэтая інфармацыя не была даведзена да маракоў амерыканскага флоту. Напад 7 снежня 1941 года на амерыканскую ваенную базу падштурхнуў інертную да таго моманту грамадскую думку ЗША да неабходнасці ўступлення краіны ў Другую сусветную вайну. Дакладна гэтак жа ў адным з чарнавікоў PNAC, датаваным вераснем 2000 года, катэгарычна абвяшчалася, што працэс трансфармацыі ЗША ў «галоўную дзяржаву будучыні» можа расцягнуцца на доўгі перыяд часу, калі не адбудзецца «якой-небудзь катастрафічнай падзеі, якая, падобна Перл-Харбару, магла б стаць ягоным каталізатарам». Падзеі 11 верасня дазволілі ЗША націснуць на кнопку запуску стратэгіі, цалкам адпаведнай палітычным прыярытэтам PNAC, якая б пры іншым збегу абставін практычна не мела б магчымасці ажыццявіцца.

Асноўная прычына існавання падобнай дымавой заслоны зводзіцца да таго, што Злучаныя Штаты і Вялікабрытанія адчуваюць дэфіцыт паліўных рэсурсаў. Да 2010 года болей за 60% сусветнай вытворчасці нафты будуць належаць мусульманскаму свету, але самае галоўнае тое, што ім жа будуць належаць і 95 % усіх экспартных паставак.

Калі правесці гэтакі аналіз, то можна зрабіць наступныя высновы: без цені сумневу, «сусветная вайна супраць тэрарызму» з'яўляецца палітычным міфам, створаным дзеля таго, каб грамадская думка магла б лёгка праглынуць стратэгічны план, які не мае нічога агульнага з гэтай вайной.

*El Mundo*

## Апраўдалі забойства журналіста

Ваенныя ўлады ЗША апраўдалі салдат, якія застрэлілі ў Іраку тэлеаператара агенцтва Reuters Мазена Дану. Па словах падпалкоўніка амерыканскай арміі Джорджа Крыво, салдаты, якія стралялі ў журналіста, не парушылі правілаў прымянення зброі ў Іраку. Што гэта за правілы, трымаецца ў сакрэце.

43-гадовы Дана быў забіты ў прыгарадзе Багдада, калі вёў здымкі каля турмы. Як паведаміў супрацоўнік агенцтва Reuters, на відэастужцы, якую зняў Дана, бачна, як да яго сталі набліжацца два амерыканскія танкі. Потым гучаць два стрэлы, і камера Даны падае на зямлю. Амерыканскае камандаванне прызнала, што салдаты расстралялі журналіста, бо ім здалося, што ў яго не камера, а базука.

Гукааператар Назль аль-Шоўхі, які працаваў з Данай, паведаміў, што амерыканцы ведалі, хто яны такія. Ён сцвярджае, што як толькі журналісты падышлі да турмы, ім дазволілі зняць турму з моста непадалёку. «Яны бачылі нас, зналі, хто мы і дзеля чаго прыбылі», – кажа аль-Шоўхі.

Дана стаў 17-м журналістам, які загінуў у Іраку з пачатку вайны.

## Шукаюць цела Гарсія Лоркі

Урад андалускай аўтаномнай вобласці вырашыў знайсці, апазнаць і ўрачыста перазахаваць астанкі выдатнага іспанскага паэта Федэрыка Гарсія Лоркі, цела якога ляжыць у брацкай магіле ў Альфакары паблізу Гранады.

Паэт быў расстраляны без суда і следства франкістамі 19 жніўня 1936 года. Па дадзеных агенцтва «Сервімедыя», урад Андалусіі мае намер ідэнтыфікаваць астанкі яшчэ чатырох тысяч ахвяраў франкісцкіх рэпрэсіяў. Яны былі забітыя прыхільнікамі Франка пасля пачатку ваеннага мяцяжу супраць законнага ўрада рэспублікі.

Прадстаўнікі ўрада Андалусіі асобна адзначылі, што расстрэлы болей за 60 гадоў таму ў Іспаніі дзесяткаў тысяч людзей – злачынства супраць чалавечнасці, для якога няма і не можа быць тэрміну даўнасці. Юрысты лічаць, што гэтае рашэнне дазволіць у далейшым распачаць у Іспаніі судовыя працэсы, аналагічныя тым, што былі праведзены нядаўна з ініцыятывы іспанскай юстыцыі ў дачыненні былога дыктатара Чылі генерала Пінsocheта і аргенцінскіх ваенных, якія знішчылі дзесяткі тысяч людзей.

Спецыялісты, якія зоймуцца пошукам і апазнаннем астанкаў Лоркі і іншых ахвяраў франкізму пад Гранадай, упэўнены ў поспеху. У іх вялікі досвед такой працы: у апошнія гады па просьбе родных і сваякоў яны эксгумуюць і апазнаюць астанкі забітых франкістамі людзей. Па дадзеных Іспанскай асацыяцыі аднаўлення гістарычнай памяці, у Іспаніі каля 50 тысяч брацкіх магіл, дзе пахаваныя тысячы ахвяраў рэпрэсіяў.

## Стыпендыя школьнікам – 65 даляраў

На мінулым тыдні ў Польшчы прэм'ер-міністр Лешэк Мілер уручыў 5.863 вучням сярэдніх школ пасведчанні аб прысваенні ўрадавых стыпендый. Штомесячная стыпендыя, усталяваная ўрадам у 1997 годзе, эквівалентна 65 далярам і прысвойваецца на адзін навучальны год. Стыпендыя прызначаецца толькі аднаму вучню ў кожнай школе, які атрымаў самы высокі сярэдні бал і мае выдатную ацэнку за паводзіны. Апроч таго, стыпендыя ўручаецца дзецям, асабліва адораным у нейкай канкрэтнай галіне, калі па ўсіх астатніх прадметах ацэнкі не ніжэй чацвёркі (па пяцібальнай сістэме). Кандыдатаў у стыпендыяты вызначае вучнёўскае самакіраванне, потым дырэктары школ прадстаўляюць іх рэгіянальнаму куратару адукацыі, а той – Міністэрству адукацыі і спорту і кіраўніку ўрада.

## Няма праблемы

Эстонію наведала дэлегацыя Парламенцкай Асамблеі НАТО, якая азнаёмілася са становішчам нацыянальных меншасцяў у краіне. Візіт прадстаўнікоў НАТО стаў водгукам на прадстаўлены ў траўні гэтага года Расіяй у Камітэт грамадзянскай бяспекі Парламенцкай Асамблеі НАТО рапарт, у якім сцвярджалася, што ў Эстоніі і Латвіі парушаюцца правы рускай нацыянальнай меншасці. Камітэт пагадзіўся накіраваць у Эстонію і Латвію спецыяльную дэлегацыю.

Па словах кіраўніка дэлегацыі, старшыні падкамітэта ПА НАТО па дэмакратычным уладкаванні Нікі Бетэндорфа, у Эстоніі асаблівых праблемаў у сферы правоў нацменшасцяў ён не прыкмеціў. «Мы прыйшлі да высновы, што на працягу апошняга года Эстонія вельмі хутка і з поспехам развівалася. Я б сказаў, што ў Эстоніі этнічным меншасцям жыць лёгка. У некаторых рэгіёнах з пераважным неэстонскім насельніцтвам маюцца праблемы з эстонскай мовай, але гэта можна выправіць, крыху змякчыўшы там дзеянне некаторых законаў», – адзначыў Бетэндорф.

Па яго словах, прадстаўнікі рускай меншасці, якія сустракаліся з членамі дэлегацыі, былі жыццём у Эстоніі задаволены і пацвердзілі, што моўнае пытанне з'яўляецца перашкодай толькі для старэйшага пакалення.

# Забытыя жаўнеры

Юры ГРЫБОЎСКІ

***Ураджэнцы Беларусі, якія загінулі і памерлі падчас службы ў польскіх узброеных сілах (1939–1946)***

Працяг. Пачатак у № 13

## Польская армія на тэрыторыі СССР пад камандаваннем генерала Уладзіслава Андэрса (1941-1942)

| | | | |
|---|---|---|---|
| Абедзінскі Іван | 1.2.1919 Бекараўка (каля Заслаўя) | Стралец | 13.3.1942 Чакпак |
| Аляхновіч Іван | 5.5.1900 Ёды (Браслаў) | Бамбардзір 7 п.д. | 4.8.1942 Кермінэ (Казахстан) |
| Аляхновіч Мар'ян | 5.5.1904 Ёды (Браслаў) | Вахмістр 7 п.д. | 29.4.1942 Кермінэ |
| Аплевіч Уладзімір | 12.5.1915 Абухова (Гродна) | Стралец 5 п.д. | 10.4.42 Джалал-Абад (Узбекістан) |
| Архімовіч Іван | 2.2.1919 Ніўкі (Вілейка) | Стралец 5 п.д. | 15.2.42 Джалал-Абад |
| Артухевіч Іосіф | ? 1902 Сеўрукі (Баранавічы) | Капрал 7 п.д. | 17.7.1942 Кермінэ |
| Аўраменка Юльян | 28.8.1905 Парэчча (Пінск) | Звязовы | 18.5.1942 Гузар |
| Аўтасевіч Браніслаў | ? 1905 Вайлагі (Ліда) | Стралец 7 п.п. | 10.7.1942 Кермінэ |
| Багдан Франц | 20.3.1911 Волька (Шчучын) | Капрал | 7.5.1942 Кенімех |
| Бакун Станіслаў | ? 1872 Азёрышча (Ашмяны) | Маёр 7 п.д. | 9.3.1942 Кермінэ |
| Балдвін-Рамульт Баляслаў | 23.6.1899 Давыд-Гарадок | Сяржант 7 п.д. | 25(27)3.42 Кермінэ |
| Бараноўскі Фелікс | 9.12.1877 Папіна (Кобрын) | Вахмістр 7 п.д. | 20.7.1942 Кермінэ |
| Барахоўскі Аляксандр | 10.6.1915 Гомель | Капрал 5 п.д. | 28.2.42 Джалал-Абад |
| Бартасевіч Багуслаў | 3.8.1923 Пінск | Стралец 5 п.д. | 9.12.41 Тоцкае (Чкалаўская вобл.) |
| Барцэвіч Мечыслаў | 19.2.1924 Язна (Дзісна) | Стралец | 27.8.1942 Янгі-Юль |
| Баторык Сцяпан | ? 1921 Валдзішкі (Навагрудак) | Кананер | 28.7.1942 Кітаб |
| Баяр Іван | 15.7.1924 Татоўка (Дзісна) | Стралец | 30.7.1942 Кенімех |
| Белавус Аляксей | 17.3.1904 Браслаў | Капрал 7 п.д. | 15.7.1941 Кермінэ |
| Беразоўскі Якуб | ? 1899 Бярозы (Гродна) | Шэраговец | 2.4.1942 Кітаб |
| Бжэзінскі Сцяпан | 23.7.1901 Багушы (Шчучын) | Звязовы | 4.3.1942 Кенімех |
| Блажаевіч Адольф | 15.9.1898 Лупенькі (Дзісна) | Стралец 7 п.д. | 24.5.1942 Кермінэ |
| Блазевіч Фелікс | 14.9.1922 Гамсава (Дзісна) | Стралец 7 п.д. | 7.7.1942 Кермінэ |
| Блашкевіч Іосіф | 13.10.1899 Брэска (Навагрудак) | Шэраговец | 8.3.1942 Чакпак |
| Богуш Эдуард | 10.10.1897 Кулікі (Нясвіж) | Ст.сяржант | 13.4.1942 Шахірызаб |
| Борка Емільян | ? 1901 Яшавічы (Ліда) | Стралец | 20.12.41 Катлубянка |
| Борынь Станіслаў | 9.1.1925 Жабчыцы (Пінск) | Стралец 7 п.д. | 18.8.1942 Кермінэ |
| Браткоўскі Іосіф | 26.12.1923 Вароныя (Столін) | Кананер | 18.7.1942 Кермінэ |
| Брыштэль Сцяпан | 15.8.1899 Дзівін (Кобран) | Ст.сапёр 7 п.д. | 31.5.1942 Кермінэ |
| Бурынскі Канстанцін | 14.3.1891 Котра (Гродна) | Сяржант 5 п.д. | 17.10.41 Тацішчава |
| Бялоцкі Станіслаў | 28.3.1902 Макавічы (Ліда) | Капрал 7 п.д. | 15.7. 1942 Кермінэ |
| Бяляк Балтазар | 8.7.1898 Дварэц (Навагрудак) | Звязовы 7 п.д | 27.3. 1942 Кермінэ |
| Валожынскі Уладзіслаў | 15.5.1896 Залессе (каля Мінска) | Стралец | 4.6.1942 Кенімех |
| Валынец Сігізмунд | 8.3.1916 Роткі (Смаргонь) | Ст.сапёр | 5.1.42 Ялчанскі Кардон (?) |
| Васільеў Васіль | 27.3.1916 Трыбухі (Браслаў) | Стралец | 15.4.1942 Гузар |
| Вашэсціе Іосіф | 29.1.1914 Вял.Абрына (Стаўпцы) | Ст.страл.7 пях.д. | 27.7. 1942 Кермінэ |
| Вежбоўскі Рычард | 21.9.1889 Гродна | Капрал | 15.3.1942 Чакпак |
| Вознюк Іосіф | (?) 1924 Латвеніч (Вілейка) | Стралец | 29.7.1942 Гузар |
| Войтаў Мікалай | 5.4.1904 Віцебск | Стралец | 22.3.1942 Кенімех |
| Воўк Напалеон | 25.6.1897 Ястраб (Баранавічы) | Стралец | 18.6.1942 Гузар |
| Вывял Сігізмунт | (?) 1935 Ліда | Стралец | 17.8.1942 Кітаб (Узбекістан) |
| Высоцкі Віктар | (?) 1906 Барова (Лунінец) | Капрал | 20.7.1942 Гузар |
| Гадлеўскі Браніслаў | 18.6.1888 Мінск | Капітан 5 п.д. | 20.10.41 Тоцкае (Чкалаўск.вобл.) |
| Гадычка-Цвірка Людвік | ? 1896 Сейлавічы (Навагр) ? | 11.8.1942 Кітаб | |
| Гайдукевіч Антон | 15.6.1923 Крапаўшчына (Ліда) | Стралец | 17.3.1942 Нарпай (?) |
| Галінскі Уладзіслаў | 2.9.1922 Якша (Пінск) | Стралец | 30.7. 1942 Кенімех |
| Галуб Казімір | 24.12.1911 Чарняхоўшчына | Стралец | 10.5. 1942 Кенімех |
| Галубовіч Канстанцін | 23.4.1901 Завоставічы (Нясвіж) | Капрал | 27.3. 1942 Кенімех |
| Гаўпт Мечыслаў | 16.9.1925 Мараўшчына (Навагрудак) | Стралец | 15.7. 1942 Кенімех |
| Гаўрыльчык Браніслаў | 15.12.1897 Глыбокаўшчына | Звязовы | 0.3.1942 Джалал-Абад |
| Главенка Казімір | 25.7.1924 Нарутовічы (Ваўкав) | Стралец | 22.7. 1942 Кенімех |
| Гладоўскі Мечыслаў | 25.3.1917 Кушалева (Навагр) | Стралец | 6.5.1942 Нарпай (?) |
| Даленга Яўген | 4(14)8.1921 Брэст | Стралец | 13.4. 1942 Кенімех |
| Дамбкоўскі Ігнацы | 26.5.1910 Брок (Брэст) | Стралец | 7.5.1942 Шахірызаб |
| Даўласевіч Іосіф | 15.12.23 Галынка (Засцяны)Ашмяны | Стралец | 25.8.42 Ашхабад |
| Дземідовіч Мікалай | 13.6.1921 Вілейка | Стралец | 16.3.1942 Чакпак |
| Дзядуль Вацлаў | 17.10.1909 Навагрудак | Падхаружы | 21.3.42 Манкент |
| Драгун Альберт | 26.5.1921 Балкоўшчына (Свір) | Стралец | 11.10.42 Краснавоцк |
| Дылікоўскі Станіслаў | 2.9.1880(96) Ваўкавыск | Стралец | 21.2.1942 Нарпай (?) |
| Дунец Іосіф | ? засценак Стары (Паставы) | Стралец 6 п.д. | 12.8.42 Шахірызаб |
| Душкевіч Іосіф | 2.1.1918 Дуньчыцы (Стаўпцы) | Стралец | 28.7. 1942 Кенімех |
| Дэрвіс Міхаіл | 1.11.1924 Касценкава(Стаўпцы) | Стралец | 21.5.1942 Гузар |
| Закрэўскі Уладзіслаў | 20.7(12)1897 Багеніца (Шчучын) | Ст.стралец | ? Кенімех |
| Заморскі Іван | (?) 1913 Кона (Ваўкавыск) | Стралец 5 п.д. | 6.3.1942 Джалал-Абад |
| Запольскі Яўхім | (?) Вял. Іва (Навагрудак) | ? | 25.6.1942 Кітаб |
| Здановіч Васіль | 1.1.1919 1-ая Вулька (Пінск?) | Стралец | 19.4.1942 Каршы (?) |
| Зупко Павел | 15.2.1923 Рудавін (Пінск) | Стралец | 10.6.1942 Гузар |
| Зэра Альгерд | (?) 1922 Зэльва | Стралец 7 п.д. | 22.7. 1942 Кермінэ |
| Жабінскі Аляксандр | 12.9.1895 Пінск | Капрал | 15.3.1942 Чарпай (?) |
| Жамойцін Міхаіл | 10.1.1905 Самаровічы (Ваўкавыск) | Звязовы | 26.3.1942 Чакпак |
| Жорах Іосіф | 25.5.1900 Прадзельск (Пружаны) | Шэраговец 7 п.д. | 19.8.1942 Кермінэ |
| Іваноўскі Багдан | ? 1903 Вербава (Ваўкавыск) | Капрал 6 п.д. | 17.8.1942 Шахірызаб |
| Івардоўскі Аляксандр | 26.8.1898 Падбярэзніцкае (Нясвіж) | Стралец | 4.7. 1942 Кенімех |
| Кавалеўскі Іосіф | 20.2.1900 Дабрынава (Навагрудак) | Стралец 7пях.д. | 14.7.(18.4) 42 Кермінэ |
| Кавалік Рудольф | 5.6.1925 Воля Маршалка (Ваўкавыск) | Шэраговец 7 п.д. | 7.8.1942 Кермінэ |
| Кажаневіч Іосіф | 20.2.1915 Альманская Качара | Ст.стралец 7 п. д. | 10.3.1942 Кермінэ |
| Калеснік Уладзімір | 21.11.1912 Круты Бераг (Нясвіж) | Стралец | 4.5. 1942 Кенімех |
| Камёнка Павел | 12.7.1920 Гарадзея (Нясвіж) | Стралец | 11.6. 1942 Кенімех |
| Камінскі Ксаверы | 14.5.1923 Нясвіж | Стралец | 20.7. 1942 Кенімех |
| Кананчук Зміцер | 15.5.1904 Папавічы (Пінск) | Капрал | 12.7. 1942 Кенімех |
| Канончук Вацлаў | ? 1918 Велічковічы (Брэст) | Стралец 6 пях.д. | 19.7.1942 Шахірызаб |
| Каранік Вінцэнт | 15.1.1910 Руднікі (Валожын) | Стралец | 14.7. 1942 Кенімех |
| Каркуць Іосіф | ? 1918 Печалавічы (Шчучын) | Кананер 10 п.д. | 23.2.1942 ст. Лугавая |
| Кароль Іосіф | 3.3.1923 Ватэркочы (Ваўкавыск) | Стралец | 7.3.1942 Чакпак ? |
| Карповіч Баляслаў | 26.1.1903 Гамісоўшчына (Нясвіж) | Улан | 4.7. 1942 Кенімех |
| Карповіч Люцыян | 1.1.1919 Русцянгі (Браслаў) | Стралец 7 п.д. | 5.7.1942 Кермінэ |
| Карповіч Павел | ? 1925 Вайцішын (Косава) | Стралец | 6.6.1942 Гузар |
| Картановіч Браніслаў | 2.2.1899 Азукольны (Ашмяны) | Сапёр 7 п.д. | 1.3.1942 Кермінэ |
| Картановіч Станіслаў | ? 1900 Камелішкі (Ашмяны) | Капрал 6 п.д. | 9.8.1942 Шахірызаб |
| Карчэўскі Рафал | 11.12.1894 Дайлідава (Дзісна) | Бамбардзір | 21.8.1942 Ашхабад |
| Карчэўскі Уладзіслаў | 25.9.1920 Дзікава (Дзісна) | Стралец | 17.3.1942 Гузар |
| Касіла Іван | ? 1905 Пулнікі (Маладэчна) | Стралец 6 п. д. | 23.7.1942 Шахірызаб |
| Касцюкевіч Альгерд | 21.1.1924 Савоня (Стаўпцы) | Стралец | 9.8.1942 Кітаб |
| Каяловіч Мікалай | 9.5.1890 Божая Воля (Браслаў) | Стралец 7 пях.д. | 8.6.1942 Кермінэ |
| Квасняк Станіслаў | ? 1922 Багушы (Шчучын) | Стралец 7 п.д. | 13.7.1942 Кермінэ |
| Клімовіч Захар | 10.4.1909 Ладзь (Столін) | Стралец | 16.2.1942 Кітаб |
| Кос Эдуард | 27.9.1922 Чыжэвічы (Брэст) | Стралец | 18.3. 1942 Кенімех |
| Крывіцкі Казімір | 27.2.1893 Ляхавічы | Звязовы | 8.3. 1942 Кенімех |
| Крычко Якуб | 14.8.1911 Давыд-Гарадок | Стралец | 19.5.1942 Кок-Янгак |
| Кубінкевіч Іосіф | ? 1900 Радзівілімонты (Клецк) | Ст.стралец 6 п.д. | 10.3.1942 Шахірызаб |
| Кухта Міхаіл | 17.11.1916 Генькі (Дзісна) | Стралец 7 п.д. | 15.4.1942 Кермінэ |
| Кучынскі Часлаў | 21.11.1921 Дананава (Брэст) | Стралец 6 п.д. | 30.7.1942 Шахірызаб |
| Кучынскі Яўген | 28.10.1913 Старыя Гуты (Шчучын) | Капрал | 24.7. 1942 Кенімех |
| Лагуна Уладзіслаў | 8.9.1904 Касакі (Шчучын) | Бамбардзір | 31.3. 1942 Кенімех |
| Лазоўскі Станіслаў | 31.10.1901 Гродна | Шэраговец | 15.4. 1942 Кенімех |
| Ласкрэўскі Дзяніс | ? 1898 Столін | Капрал 6 п.д. | 3.10.1941 Тоцкае |
| Лаўрэнчук Іван | 28.6.1924 Боркі (Пінск) | Стралец | 2.7.1942 Гузар |
| Лепак Эдуард | ? 1913 Багушы (Шчучын) | Звязовы | 13.8.1942 Кітаб |
| Ліпінскі Антон | ? 1900 Ліда | Стралец | 12.4.1942 Гузар |
| Ліпоўскі Міхаіл | 10.3.1897 Альмент (Стаўпцы) | Капрал 5 п.д. | 9.4.42 Джалал-Абад |
| Літвіновіч Вацлаў | 21.1.1919 Альбярцін (Столін) | Стралец | 5.3.1942 Чакпак |
| Лой Генрык | ? 1915 Галаўчыцы (Ваўкавыск) | Стралец | 28.7.1942 Гузар |
| Лукоўскі Часлаў | 3.4.1896 Пеньчыкава (Шчучын) | Стралец 10 п.д. | 17.3.1942 ст.Лугавая |
| Любнеўскі Мечыслаў | 9.11.1923 Мікуліна (Вілейка) | Стралец9 п.д. | 29.3.1942 Маргелан |
| Любяніцкі Пётр | 25.12.1923 Вялікае (Ваўкавыск) | Стралец 5 пях.д. | 18.2.1942 Джалал-Абад |
| Маеўскі Баляслаў | 7.11.1897 Дамбнякі (Лунінец) | Стралец 6 пях.д. | 21.12.1942 Тоцкае |
| Макоўскі Антон | 26.10.1911 Мінск | Стралец | 10.3.1942 Чакпак |
| Маліцкі Вінцэнт | 5.4.1911 Дубое (Столін) | Капрал7 п.д. | 2.5.1942 Кермінэ |
| Малышка Баляслаў | 22.4.1905 Латвічы (Баранавічы) | Стралец 7 п.д. | 17.3.1942 Кермінэ |
| Маркові Сцяпан | 14.6.1902 Каран Грьдак (Лунінец) | Ст.стралец 7 п.д. | 7.3.1942 Кермінэ |
| Марозік Франц | 9.2 (18.11)1922 Валейковічы | Стралец | 10.7. 1942 Кенімех |
| Марцілоўскі Сымон | ? 1899 Васош (Шчучын) | Сяржант | 25.3.42 Высокае (?) |
| Марчык Хведар | 8.12.1924 Прыбураўна (Слонім) | Стралец | 1.7. 1942 Кенімех |
| Матвейчык Іосіф | 4.9.1903 Гумбішкі (Ваўкавыск) | Вахмістр | 10.6. 1942 Кенімех |
| Мерцік Хведар | ? 1924 Прыбураўна (Слонім) | Стралец | 11.7. 1942 Кенімех |
| Мілевіч Генрык | 8.7.1923 Палессе (Браслаў) | Стралец | 6.5.1942 Гузар |
| Мсіон Клеафас | ? 1901 Бечуны (Браслаў) | Капрал | 10.7. 1942 Кенімех |
| Міска (Місла) Станіслаў | 8.5.1924 Лунін (Пінск) | Стралец | 13.6.1942 Гузар |
| Мойса Казімір | ? 1912, Пружаны | Ст.улан штаба | 9.3.1942 Янгі-Юль |
| Нагай Пётр | ? 1918 Валожын | Стралец | 30.3.1942 Гузар |
| Наркевіч-Ядка Раман | 12.7.1922 Навагрудак | Стралец | 27.3. 1942 Кенімех |
| Невяроўскі Антон | 12.2.1903 Дубійкі (Нясвіж) | Стралец | 9.7. 1942 Кенімех |
| Неміра Баляслаў | 20.12.1907 Александрына (Браслаў) | Улан 10 п.д. | 27.3.1942 ст.Лугавая |
| Новак Франц | 13.2.1907 Гамбкоўшчына (Дзісна) | Капрал 5 пях.д. | 9.3.1942 Джалал-Абад |
| Падалянчык Павел | 14.9.1910 Цімошкавічы (Навагрудак) | Стралец | 8.7.1942 Гузар |
| Паёр Станіслаў | 30.6.1924 Беразавец (Стаўпцы) | Стралец | 14.6.1942 Гузар |
| Палуянчык (Палуянскі) А. | 25.8.21 Ястрабка (Баранавічы) | Стралец | 14.3.1942 Кенімех |
| Пашкевіч Кірыл | 15.11.1918 Драздьі (Столін) | Стралец | 30.3.1942 Чакпак |
| Петрашэўскі Андрэй | 25.11.1893 Друя | Кананер | 13.11.1941 Тацішчава (Саратаўская вобл.) |
| Піваровіч Баляслаў | 15.10.1918 Гаўранцы (Браслаў) | Стралец | 6.8.1942 Гузар |
| Пілейка Антон | 16.4.1896 Грушаўшчына (Валожын) | Ст.стралец | 13.3.1942 Нарпай (?) |
| Протас Іосіф | 11.5.1914 Гавозна (Нясвіж) | Стралец 7 п.д. | 10.7.1942 Кермінэ |
| Прошка Лявон | 28.6.1908 Друя (Браслаў) | Капрал | 13.3.1942 Кенімех |
| Пупко Рыгор | 23.6.1923 Цмінокі (Валожын) | Стралец | 10.7.1942 Гузар |
| Пяркоўскі Баляслаў | 1.7.1904 Гольцава (Паставы) | Звязовы | 15.3.1942 Чакпак |
| Пяткевіч Антон | 13.12.1923 Мар'янава (Дзісна) | Стралец | 21.7.1942 Кенімех |
| Рак Станіслаў | 16.8.1916 Прочыцы (Пінск) | Стралец | 12.4.1942 Гузар |
| Ракецкі Уладзімір | 7.3.1905 Каратніца (Вілейка) | Стралец | 23.6.42 Шахірызаб |
| Раковіч Франц | 11.11.1918 Гайнявічы (Баранавічы) | Стралец | 9.3.1942 Нарпай (?) |
| Рамановіч Лявон | 29.3.1903 Кобрын | Ст.стралец | 9.7.1942 Гузар |
| Раманоўскі Іван | 14.8.1907 Лаплуцы (Паставы) | Стралец | 25.5.1942 Гузар |
| Раманчук Вацлаў | ? 1918 Велічковічы (Брэст) | Стралец | 19.7.1942 Гузар |
| Раткевіч Сцяпан | 2.9.1912 Міхнавічы (Пружаны) | Капелан | 28.4.1942 Кенімех |
| Рафаловіч Уладзімір | 27.12.1924 Рубрын (Столін) | Стралец | 26.7.1942 Кітаб |
| Рудзь Іван | ? 1896 Ашмяны | Ст.стралец | 5.8.1942 Кітаб |

# Грыбная рулетка

Няма іншага «дарунка прыроды», з якім было б звязана столькі міфаў і памылак, чым грыбы. Прыкладам, узяць хоць бы сыраежку. З назвы вынікае, што грыб можна есці сыры. Некаторыя прасцякі так і робяць: мацуюцца сыраежкай, выбіраючы прыгожую. А між тым рабіць так не варта – сыраежкі актыўна назапашваюць радыеактыўны цэзій.

Багата загадак нарадзілі масавыя атручванні ядомымі грыбамі. Шмат хто ўпэўнены, што смяротныя выпадкі выкліканы грыбамі-мутантамі, якія да гэтага лічыліся ядомымі, але пад уздзеяннем надта неспрыяльнай экалогіі пачалі прадуцыраваць таксіны і зрабіліся ядавітымі. Аднак ёсць больш праўдзівыя тлумачэнні. Праз 17 гадоў пасля Чарнобыля добра вядома, што некаторыя грыбы інтэнсіўна назапашваюць кадмій, ртуць, свінец, медзь, цынк ды іншыя цяжкія металы. Канцэнтрацыя іх у грыбах бывае ў дзесяткі, а то і ў сотні раз вышэйшая, чым у субстраце, на якім яны растуць. У такіх канцэнтрацыях металы не бясшкодныя.

Цяжкія металы могуць істотна ўплываць на ферментныя сістэмы нашага арганізму. Даследаванні паказалі, што назапашванне цяжкіх металаў і радыенуклейдаў вызначаецца хімічнай прыродай гэтых рэчываў, біялагічнымі асаблівасцямі розных відаў грыбоў, а таксама ўмовамі іх росту. Грыбы – чэмпіёны па назапашванню радыеактыўнага цэзія. Канцэнтрацыя гэтага элемента ў грыбах у сярэднім у 20 разоў вышэй, чым у максімальна забруджаным слоі лясной падсцілкі.

Натуральна, у такой сітуацыі ўзнікае пытанне: есці такія грыбы ці не есці, а калі есці, дык як?

Кулінарная апрацоўка значна змяншае ўтрыманне радыенуклеідаў. Варка грыбоў на працягу 15-45 хвілін з двухразовай ці больш частай зменай вады паніжае канцэнтрацыю радыеактыўнага цэзію да прымальнай велічыні.

Але ваду пры варцы мяняюць далёка не ўсе. Ды і не заўсёды гэта можна зрабіць. Адвараючы грыбы для засолкі ці марынаду, ваду змяніць проста. А як гэта зрабіць, калі гатуеш грыбны суп? Апроч таго, не трэба забываць вымочваць грыбы. Не варта іх сушыць, бо ў сухіх грыбах пасля страты вады канцэнтрацыя ўсіх цяжкіх металаў і радыецэзія павялічваецца. Зразумела, трэба адмовіцца ад спажывання грыбоў у тых раёнах, дзе ёсць відочныя крыніцы забруджання асяроддзя цяжкімі металамі. Не варта збіраць грыбы і ўздоўж дарог, дзе заўсёды шмат выхлапных адкідаў, якія ўтрымоўваюць злучэнні свінцу.

Паколькі біяхімічныя працэсы больш актыўна ідуць у шапачках грыбоў, канцэнтрацыя ўсіх рэчываў, у тым ліку і таксічных, у іх вышэйшая, чым у ножках. Па гэтай жа прычыне іх болей і ў маладых грыбах.

Шмат залежыць ад віду грыба. Свінуха інтэнсіўна назапашвае медзь. Тое ж самае датычыць груздa, порхаўкі. Шампіньёны і баравікі назапашваюць ртуць. А вось сыраежка набірае радыеактыўны цэзій. Больш за яе накапліваюць такі цэзій – масляты, махавікі, польскі грыб. Меншую радыеактыўнасць маюць апенькі, падасінавікі, падбярэзавікі, лісічкі.

**Аляксандр МЕЛЬНІКАЎ**

# Акаева просяць парушыць Канстытуцыю

З'езд асацыяцыі прадпрымальнікаў Кіргізіі вылучыў кандыдатуру прэзідэнта Аскара Акаева на трэці пяцігадовы тэрмін. Гендырэктар Таварыства з абмежаванай адказнасцю «Сучасныя гандлёвыя тэхналогіі» Сяргей Варонін заявіў: «Кіргізскія прадпрымальнікі лічаць, што распачатыя рэформы неабходна давесці да канца, і, улічваючы агромністы ўклад прэзідэнта ў развіццё суверэннай Кіргізіі і пастаянную падтрымку, якую аказвае прэзідэнт прадпрымальніцкім структурам, мы просім Аскара Акаева быць прэзідэнтам нашай дзяржавы яшчэ адзін пяцігадовы тэрмін». Дэлегаты падтрымалі гэтую прапанову. Па Канстытуцыі Кіргізіі прэзідэнт можа выбірацца толькі на два тэрміны. Раней Акаеў заяўляў, што ён не мае намеру больш вылучаць сваю кандыдатуру на новых прэзідэнцкіх выбарах.



Год таму Акаеў апублікаваў дэкларацыю аб даходах. Згодна з дэкларацыяй, Акаеў атрымаў зарплату на агульную суму 501.222 сома (1 даляр ЗША – 46 сомаў), што атрымліваецца па 913 даляраў на месяц. Атрымаў ганарар за кнігу «Цяжкі шлях да дэмакратыі» ў памеры 30 тысяч 104 даляры і міжнародныя прэміі на суму 20 тысяч 065 даляраў. Маёмасць прэзідэнта: жылы дом плошчай 331,8 кв. метры, «Джып-Мерседэс» 1995 года, 152 акцыі прыбытковага АТ «Кіргізтэлеком», шэсць адзінак зброі, два жарабцы.

У жонкі кіраўніка дзяржавы, Майрам Акаевай, ганарар і прыбытак ад рэалізацыі выдадзеных ёй кніг склаў 177 тысяч 538,5 даляраў. З гэтай сумы яна ахвяравала на дабрачынныя мэты 43 тысячы 478 даляраў. Мае кватэру плошчай 125,2 кв. метры. Такім чынам, агульны набытак прэзідэнцкай пары складае 200 тысяч даляраў.

Сярэдняя пенсія ў Кіргізіі складае 500 сомаў (10,86 даляра), зарплата настаўнікаў і міліцыянераў – ад 1 тысячы да 2,5 тысяч сомаў (ад 21,74 да 54,35 даляра). На вёсцы людзі выжываюць, у асноўным за кошт натуральнага абмену.

# *Добра быць бедным*

Маскоўскія ўлады збіраюцца вызваліць сем'і з даходам да 600 рублей у месяц на чалавека (прыкладна 20 даляраў) ад платы за жыллёва-камунальныя паслугі. Для астатніх плата за кватэру будзе расці. Калі штомесячны даход на чалавека не перабольшвае 1000 рублёў на чалавека (каля 50 даляраў), сям'я будзе плаціць 3% ад агульнай сумы кватэрнай платы. Калі на члена сям'і прыходзіцца 2.000 рублёў, то за камунальныя паслугі сем'я будзе плаціць не болей 10% ад сумы агульнага даходу. Пакуль што гэтая прапанова знаходзіцца на распрацоўцы, а ўвесці яе ў дзеянне плануюць у лістападзе. Цяпер, згодна з пастановай расійскага ўрада, плата за камунальныя паслугі для Масквы складае 23,8 рубля за квадратны метр. Прыкладам, за 2-пакаёўку памерам 40 кв. метраў трэба плаціць каля 950 рублёў (каля 30 даляраў)

## Рэкорд



**Пастаноўка оперы «Аіда» на вялізным стадыёне ў сталіцы Кітайскай Народнай Рэспублікі стала унікальнай з'явай – яна каштавала болей за 3 мільёны еўра і ў ёй былі занятыя болей за 3 тысячы выканаўцаў.**

# Свет можа застацца без арангутангаў

Арангутангі могуць знікнуць як від праз 10–20 гадоў з-за таго, што лясы дзе яны пражываюць, па-варварску высякаюцца браканьерамі. Высечкі прасоўваюцца ўсё далей углыб трапічных лясоў Малайзіі і Інданезіі, дзе толькі і жывуць гэтыя чалавекападобныя малпы.



Вучоная з Гарвардскага універсітэта Шэрыл Нот вывучала гэтае пытанне ў нацыянальным парку Gunung Palung, на тэрыторыі якога жывуць каля 2.500 арангутангаў – дзесятая частка сусветнай папуляцыі. За некалькі месяцаў яе назіранняў браканьеры знішчылі болей за сотню дрэваў. Нот гаворыць, што арангутангі на зямлю практычна не спускаюцца, перасоўваюцца па галінах, паядаюць плады і спяць на дрэвах.

Арангутангі – адны з самых разумных прыматаў. Шэрыл Нот сцвярджае, што ў адной з калоній назірала за малпамі, якія карысталіся прымітыўнымі інструментамі і перадавалі гэтыя навыкі ў спадчыну. Нот лічыць, што на праблему захавання трапічных лясоў павінна звярнуць увагу міжнародная грамадскасць, бо інакш праз 20 гадоў мы можам прачнуцца ў свеце, дзе не будзе арангутангаў.

## Кнігарня







**Паўла Урбан. Старажытныя ліцьвіны. Мова, паходжаньне, этнічная прыналежнасьць. Мн, Тэхналогія. 2003.** Аўтар, аўтарытэтны гісторык, на падставе невядомых і малавядомых крыніц даводзіць славянскае паходжанне таго племя, якое дало назоў Вялікаму княству Літоўскаму. У дадатку змешчаны матэрыялы да тлумачэння паганскіх імёнаў.

**Вольга Гапеева. Рэканструкцыя неба. Менск, 2003.** Кніга таленавітай нон-канфармісцкай пісьменніцы змяшчае вершы, п'есу «Калекцыянер» і раман «Рэканструкцыя неба». Чытач, ахвочы да жывой літаратуры, адчуе смак свежай сучаснай літаратуры.

# *Кабеты апярэдзілі мужчын*

У фінскай культуры спажывання алкагольных напояў адбываюцца радыкальныя змены – гэтым мужчынскім заняткам захапіліся жанчыны. Па звестках, газеты Helsingin Sanomat, у 1968 годзе 39% фінскіх жанчын былі абсалютнымі цвярозніцамі, а ужо ў 2000 годзе сярод моладзі ва ўзросце 15–24 гадоў і людзей сярэдняга ўзросту (35–44 гады) мужчыны часцей устрымоўваліся ад напояў, чым жанчыны.

35 гадоў таму фінкі выпівалі 12% ад агульнага аб'ёму спажытай у Фінляндыі спіртовай прадукцыі, а ў 2000 годзе іхная доля склала 25%. Агульнае спажыванне алкаголю ў краіне за гэты час узрасло ў тры разы. Амаль 95% жыхароў Фінляндыі ва ўзросце 25–34 гадоў спажываюць спіртовыя напоі, а сярод 30–49-гадовых грамадзян і грамадзянак абсалютных цвярозніц налічваецца толькі 4%, а мужчын, якія абсалютна не п'юць, – 7%.

# Памяць аб апалоніках

Ікаўка можа быць напамінкам пра старажытных прабацькоў чалавецтва, якія дыхалі праз шчэлепы, паведамляюць вучоныя. Гэтае новае тлумачэнне старой загадкі звязвае чалавека з амфібіямі – такімі, як апалонікі, – у эвалюцыйным ланцугу, які распасціраецца ўглыб часу на сотні мільёнаў гадоў.

Наша ікаўка гэта раптоўнае скарачэнне мускулаў, якія скарыстоўваюцца для дыхання. Як раз пасля таго, як мускулы пачынаюць скарачацца, галасавая шчыліна змыкаецца, закрываючы дыхальную трубу, і атрымоўваецца характэрны гук «ік!». Гэта адбываецца без якой-небудзь відавочнай прычыны. Аднак такія істоты, як двайкадыхаючая рыба і шматлікія амфібіі, у якіх яшчэ захаваліся шчэлепы, робяць тое ж самае, каб пачаць «дыхаць». Яны выводзяць ваду праз шчэлепы, сціскаючы поласць рота, і аднача сна закрываюць галасавую шчыліну, каб вада не патрапіла ў лёгкія.

Група вучоных прыкмеціла аналогію між ікаўкай і вентыляцыяй лёгкіх у апалонікаў і падобных на іх. І людзі, і апалонікі затрымліваюць дыханне, калі, напрыклад, перапоўнены лёгкія ці калі высокае ўтрыманне двухвокісу вугляроду ў паветры ці ў вадзе. Але чаму ікаўка захавалася праз 370 мільёнаў гадоў пасля таго, як жывёлы ўпершыню выйшлі на сушу? І чаму зародак ва ўлонні мацеры ікае яшчэ да таго, як становіцца прыкметнай хоць якая дыхальная актыўнасць? Вучоныя мяркуюць, што гэта звычка ператварылася і цяпер дапамагае млекакормячым навучыцца ссаць.

**Ігар ПАЛАНЕЦКІ**

Новы Час
Галоўны рэдактар Алена АНІСІМ

Заснавальнік: Мінская гарадская арганізацыя ТБМ імя Ф.Скарыны.
Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1798 ад 25 сакавіка 2002.
Адрас: 220005, Мінск, вул. Румянцава, 13
E-mail: nchas@promedia.by

Рэдактар нумару Канстанцін Тарасаў
Камп'ютэрная вёрстка Андрэй Дзегцяроў
Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая.
Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы.
Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.

Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка ў друкарні УП «Светач».
Ліцэнзія ЛП № 187 ад 09.01.2003 г.
220030, Мінск, вул. Першамайская, 7. Замова № 1804
Падпісана да друку 03.10.2003 (12:00).
Наклад 2 300 асобнікаў.
Газету можна атрымаць у сядзібе ТБМ па адрасе:
Мінск, вул. Румянцава, 13, тэл. 288-23-52, 284-85-11